КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 20 (292) ◂ 18 мая ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ПЕРШЫЯ ЛЭДЗІ ФРАНЦЫІ

Стар. 13

**ПРА РОЛЮ ЗАПАЛАК І ВОЦАТУ Ў ЭКАНАМІЧНЫМ КРЫЗІСЕ**

Наш галоўны кандыдат у прэзідэнты ў 2006 годзе браў на сябе абавязак за пяць гадоў давесці якасць жыцця беларусаў да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім

Стар. 4

**ПРАБЛЕМЫ СЛАВАЦКІХ ЦЫГАНОЎ**

Цыганскае пытанне для Славакіі вострае. Паводле ацэнак экспертаў, цыгане складаюць каля 7 працэнтаў насельніцтва краіны (блізу 350 тысяч чалавек). Большасць з іх сацыяльна не інтэграваныя

Стар. 11

**ВЯЛІКІЯ КАМБІНАТАРЫ З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**УЛАДЗІМІР ЛАБКОВІЧ**

Нарыс Аляксандра Тамковіча з цыклу «Трэці сектар у асобах»

▸ З НАГОДЫ

# ХТО НА НОВЕНЬКАГА?

Вольга ХВОІН

**Апошнім часам агучваецца нямала ідэй па стварэнні цэнявога ці альтэрнатыўнага ўраду па-за межамі краіны. Але калі апазіцыйныя сілы не змаглі дагрукацца да людзей тут, дык няўжо яны змогуць гэта зрабіць адтуль? А можа, размова пра захаванне сябе, набыццё пэўнага статусу?**




Змяніць сітуацыю ўнутры краіны могуць толькі беларусы, а ім патрэбныя адчувальная прапанова і рэальны вынік. Слухаць заклікі з-за мяжы будзе толькі невялікая групоўка ўсё тых жа апазіцыйна настроеных да ўлады людзей. Астатнім закардонныя енкі да лямпачкі.

Паводзіны беларускай апазіцыі ўжо выклікаюць пытанні не толькі ўнутры краіны, але і па-за яе межамі. Міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс у інтэрв'ю няўрадавымі цэнтру «Cernegie» выказаў рэзкую крытыку на адрас апазіцыйнага руху. «Я на самай справе стаміўся ад падтрымкі планаў беларускай апазіцыі. Апазіцыя раздробленая. У яе няма ніякай выразнай лініі па падрыхтоўцы да наступных выбараў, — сказаў Ажубаліс. — Я бачу адзін даволі адчайны шлях. Разам з нашымі сябрамі ў Амерыцы нам трэба пачынаць думаць пра пераходны савет. Мы павінны стварыць альтэрнатыўны цэнтр сілы. Такая паралельная структура магла б знайсці водгук у краіне. Гэта ідэя, але пакуль ніякай рэакцыі на яе з Брусэлю не было».

Яшчэ раней шэраг дзеячаў беларускай культуры і палітыкаў выступілі з адкрытым лістом «Аб сучаснай ролі Рады БНР». «Прызнаючы правы любога грамадзяніна любой дзяржавы мець сваё меркаванне адносна ўсяго, што адбываецца ў Беларусі, мы таксама маем сваё меркаванне адносна падобных заклікаў. Замежная ініцыятыва ў гэткім важным і цалкам беларускім пытанні ставіць пад сумнеў здольнасць беларусаў самім вызначыцца ва ўласным лёсе. Сітуацыя ў Беларусі напружаная, канфліктная, але яна павінна быць вырашаная ўнутры краіны», — падкрэслівалі падпісанты ліста. Яны ж нагадвалі, што падобнае прадстаўніцтва Беларусі па-за межамі краіны даўно існуе (гэта Рада Беларускай Народнай Рэспублікі) і пладзіць новыя ўтварэнні няма сэнсу.

А на гэтым тыдні стала вядома, што былыя супрацоўнікі сілавых ведамстваў Беларусі ініцыююць аргкамітэт па стварэнні пераходнага ўрада. У Вільні ўжо адбыўся сход аргкамітэта, у бліжэйшы час будуць апублікаваныя яго прынцыпы барацьбы, мэты і задачы. Ініцыятарамі, мяркуючы па ўсім, з'яўляюцца былы палкоўнік спецназа Уладзімір Барадач і былы маёр КДБ Ануфрый Рамановіч. Уладзімір Барадач у 1999 годзе ўваходзіў у каманду Міхаіла Чыгіра, меў дачыненне да стварэння Саюза беларускіх афіцэраў (на чале з генералам Юрыем Захаранкам), які мусіў стаць сілай, што супрацьстаяла б Лукашэнку. Жыве ў эміграцыі.

Унутры Беларусі гэтую інфармацыю, як, зрэшты, і раней агучаныя намеры стварыць урад у выгнанні пад кіраўніцтвам экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, успрымаюць з асцярогай і скептыцызмам. Так, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзькі заўважыў, што скарачэнне ў Беларусі колькасці офісаў па працы з грамадзянамі і, адпаведна, павелічэнне офісаў, цэнявых структур за мяжой ёсць трывожным знакам.

«Я так разумею, што ўсе інстытуцыі за мяжой ствараюцца ў першую чаргу для працы з чыноўнікамі ў Еўропе, а потым ужо з арыенціроўкай на краіну. Але я не разумею, як могуць працаваць нейкія цэнявыя структуры за межамі Беларусі з прэтэнзіяй, што на самай справе яны з'яўляюцца рэальнай палітычнай сілай унутры краіны», — заявіў Анатоль Лябедзька.

Крытычна да гэтай інфармацыі ставіцца і лідар адраджэнскага руху пачатку 1990-х Зянон Пазьняк. «Я ведаю Уладзіміра Барадача як чалавека вельмі прыстойнага і сумленнага афіцэра. І вось таму, што ён сумленны афіцэр, ён можа падпадаць пад уплыў пэўных «прагрэсіўных думак». Прагрэсіўных, таму што яны ўспрымаюцца, і думаю, тут без гэтага не абышлося, — пракаментаваў новыя ініцыятывы Радыё «Свабода» Зянон Пазняк. — Я размаўляў з Ажубалісам, сустракаўся з ім, гэта талковы, разумны чалавек. І канешне, вельмі дзіўна чуць такую заяву з вуснаў міністра замежных спраў іншай дзяржавы. Такое мог сказаць нейкі беларускі палітычны эмігрант, гэта нармальна было б... Цяпер у гэтай пустаце робяцца такія дзіўныя заявы, такая дзіўная палітыка, і ствараецца ў масах у Беларусі меркаванне, што іх нехта выцягне за валасы з гэтага балота. З гэтага балота можам выйсці толькі мы самі. Толькі беларусы самі».

Досвед трансфармацый у посткамуністычных краінах Еўропы паказвае, што дэмакратычныя ўнутраныя рухі мелі падтрымку звонку. Але абапіраліся яны найперш на людзей унутры краіны, людзей, якія былі вядомыя абывацелям, з кім звязвалі спадзяванні на перамены. Ухвальнае жаданне палітуцекачоў рабіць нешта для Беларусі, аднак ім варта было б цвяроза глядзець на сітуацыю ўнутры краіны. І памятаць, што шанец на давер абывацеля мае той, хто знаходзіцца побач, а не за тысячы кіламетраў.

Для еўрапейскіх палітыкаў, як і для саміх беларусаў, многа гадоў застаецца загадкай, чаму ў такім бядотным стане апазіцыя не можа аб'яднацца, пачаць працаваць супольна на адзіную мэту, а не займацца піярам і прадстаўніцтвам кожнай асобнай структуры. Можа, таму, што, як у той прымаўцы, дзе ёсць тры беларусы — там партызанскі атрад і здраднік? Такая яна, складаная беларуская душа...

АКЦЫЯ

# СТУЖКА СВАБОДЫ

**Рух «За Свабоду» раздаў у розных гарадах бел-чырвона-белыя стужкі.**

У акцыі ўзялі ўдзел некалькі дзясяткаў сябраў Руху «За Свабоду» з Гомеля, Брэста, Баранавічаў, Пінска, Кобрына, Ганцавічаў, Івацэвічаў і Белаазёрску.

Аўтааматарам у гэтых гарадах былі раздадзены сотні стужак. Людзі вельмі пазітыўна ўспрымалі акцыю.

«Ужо цэлае пакаленне беларусаў вырасла, не ведаючы нашай нацыянальнай сімволікі. І мэтай акцыі было нагадаць грамадзянам пра нацыянальны сцяг, якога мы пазбавіліся ў выніку рэферэндуму 1995 года. Таксама мэтай акцыі была падтрымка Сяргея Каваленкі, які адбывае пакаранне менавіта за нацыянальны сцяг», — кажа каардынатар Руху «За Свабоду» па Брэсцкай вобласці Зміцер Трацццяк.

Па словах каардынатара Руху «За Свабоду» на Гомельшчыне Пятра Кузняцова, у абласным цэнтры раздадзена як кіроўцам, так і пешаходам больш за 200 стужак. Акцыя праходзіла ў раёне чыгуначнага вакзала, цэнтральнага рынку і Прудкоўскага рынку.

**Рух «За Свабоду»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗА АЛЬТЭРНАТЫЎНУЮ СЛУЖБУ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Нягледзячы на наяўнасць у Канстытуцыі Беларусі артыкула 57, які прадугледжвае магчымасць праходжання альтэрнатыўнай грамадзянскай службы (АГС), дагэтуль не прыняты адпаведны закон, які б даваў такую магчымасць. Тым не менш, у краіне ёсць маладыя людзі, якія не жадаюць ісці ў войска, але гатовы праходзіць АГС. Пра гэта яны заявілі на прэс-канферэнцыі ў Мінску 16 мая.**

Каардынатар кампаніі «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу» Яўген Асіеўскі адзначыў, што, апроч артыкула 57 Канстытуцыі, таксама і ў Законе аб вайсковай службе маюцца шэсць артыкулаў, дзе прысутнічае фармулёўка «альтэрнатыўная служба». Ёсць і людзі, якія жадаюць замяніць тэрміновую службу грамадзянскай, але дагэтуль няма асобнага закона, які б мог патлумачыць, як гэта зрабіць, падкрэсліў Асіеўскі.

Па словах Асіеўскага, людзей, якія жадаюць праходзіць АГС, ні ў якім выпадку нельга лічыць ухілістамі. «Гэта свядомыя адмоўнікі, якія з прычыны сваіх перакананняў не могуць несці тэрміновую службу, апранаць вайсковую форму, браць у рукі зброю, — падкрэсліў актывіст. — Гэтыя людзі гатовы на больш працяглы тэрмін службы, чым тэрміновая, як гэта мае месца ў іншых краінах. Па-другое, адмоўнікі гатовы ісці працаваць у любыя праблемныя месцы, дзе не хапае персаналу, — гэта хоспісы, дзіцячыя дамы, шпіталі, дамы састарэлых. Таксама і ў лясніцтвах не хапае людзей. Што да саміх адмоўнікаў, то гэта людзі, якія не могуць ісці ў войска з рэлігійных перакананняў, пацыфісты, якія адмаўляюць любы гвалт і нават яго патэнцыйныя магчымасці, а таксама прадстаўнікі сэксуальных меншасцяў, для якіх знаходжанне ў арміі можа быць папросту небяспечным».

Андрэй Чарнавусаў з Ліды і Алег Яўзрэзаў з Бабруйску звярнуліся ў кампанію «За АГС» таму, што лічаць для сябе немагчымым па маральных прычынах і ўласных перакананнях служыць у сілавых структурах. Апроч гэтага, Чарнавусаў пакутуе на рэактыўны артроз, а Яўзрэзаў жаліцца на болі ў сэрцы, тым не менш, медкамісіі ваенкаматаў прызналі іх годнымі да тэрміновай службы. Апошняму нават не дазволілі прайсці паўторнае УЗІ (рэха-даследаванне) сэрца. Абодва прызыўнікі звярнуліся ў адпаведныя структуры з просьбай даць ім магчымасць праходзіць альтэрнатыўную службу, але атрымалі адмовы: маўляў, такой магчымасці ў Беларусі не існуе. Па словах Яўгена Асіеўскага, з гэтай нагоды ў Лідскі і Бабруйскі суды ўжо накіраваны скаргі, цяпер хлопцы чакаюць прызначэння тэрміну судовых пасяджэнняў.

Прадстаўнік кампаніі «За АГС» Кірыл Канстанцінаў адзначыў, што самі супрацоўнікі ваенкаматаў не валодаюць заканадаўчай базай. «Але механізм не прапісаны, таму наша задача — як мага хутчэй дабіцца прыняцця закона аб АГС», — сказаў Канстанцінаў.

На сённяшні дзень заявы на праходжанне АГС напісалі дванаццаць прызыўнікоў. Па словах прадстаўнікоў кампаніі «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу», штомесяц па кансультацыі да іх звяртаюцца каля 120 чалавек, за апошні год іх колькасць перавысіла тысячу. Актывісты мяркуюць, што зацягванне прыняцця закона аб АГС звязана з лабіраваннем сваіх інтарэсаў Міністэрствам абароны, якое можа быць зацікаўлена ў адсутнасці такога заканадаўчага акта, баючыся, што колькасць прызыўнікоў, якія не жадаюць ісці ў войска, можа істотна павялічыцца, а гэта сарве планы МА па прызыву. Хаця сёння працэнт тых, хто жадаў бы несці альтэрнатыўную службу, даволі малы, і ніякай пагрозы краіне наяўнасць такой магчымасці не ўяўляла б, мяркуюць у кампаніі «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу».

ЛЁС

# КАВАЛЁВЫ СУСТРЭЛІСЯ З ЖОНКАЙ ПРЭЗІДЭНТА ПОЛЬШЧЫ

**15 мая Любоў і Таццяна Кавалёвы, маці і сястра Уладзіслава Кавалёва, расстралянага паводле выраку суда па справе аб выбуху ў мінскім метро, сустрэліся з Ганнай Камароўскай — жонкай прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага.**



Тыднёвы візіт Любові і Таццяны Кавалёвых у Польшчу, арганізаваны тэлебачаннем TVN у межах акцыі «Стоп смяротнаму пакаранню ў Беларусі», распачаўся 14 мая.

Ганна Камароўская выразіла падтрымку грамадскую акцыю за ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі і падпісаць петыцыю, створаную праваабарончымі арганізацыямі Беларусі.

У межах візіту запланаваны таксама паказ рэпартажу аўтарства Манікі Гуралеўскай «Jak wygląda wymiar sprawiedliwosci na Bialorusi» у Хельсінкскай фундацыі, спатканне ў Беларускім доме, а таксама выступленні спадарыняў Кавалёвых на тэлебачанні TVN, TTV і іншых польскіх і беларускіх сродках масавай інфармацыі.

Акцыя, арганізаваная тэлекампаніяй TVN, скіраваная да польскага грамадства, у тым ліку да прадстаўнікоў польскай эліты. Петыцыю за ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне падпісалі былы прэм'ер-міністр Польшчы Тадэвуш Мазавецкі, рэжысёры Анджэй Вайда і Казімір Куц, акторкі Анна Палоні і Крыстына Янда, пісьменніца Крыстына Кофта, грамадскія дзеячкі Яніна Ахойска, Хенрыка Крыванос, еўрадэпутаты Ежы Бузэк, Яцэк Пратасевіч, Багуслаў Сонік ды многія іншыя. Ад моманту старту кампаніі петыцыю падпісала больш як 2000 асобаў з Польшчы, Еўропы, ЗША, Аўстраліі.

**spring96.org**

## САЛІДАРНАСЦЬ

### ПАРЫЖ ЗА БЯЛЯЦКАГА

**Францыя мае намер рашуча дамагацца вызвалення Алеся Бяляцкага. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні на сайце французскага МЗС з нагоды ўдзелу пасла Францыі па правах чалавека Франсуа Зімерэ ў мерапрыемстве, арганізаваным у падтрымку Алеся Бяляцкага мэрыяй Парыжа.**

«Алесь Бяляцкі, прэзідэнт беларускай асацыяцыі «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, знаходзіцца ў зняволенні ў Беларусі з 4 жніўня 2011 года, а 24 лістапада 2011 года ў рамках перадузятага судовага разгляду яго прысудзілі да чатырох з паловай гадоў зняволення ў папраўчай калоніі.

Францыя ўжо неаднаразова заяўляла сваю падтрымку сп. Бяляцкаму і выказвала рашучасць працягваць дамагацца яго вызвалення. Намінацыя гэтага годнага кандыдата на Нобелеўскую прэмію міру 2012 адлюстроўвае прызнанне яго дзейнасці ў імя правоў чалавека», — паведамляе МЗС Францыі.

Таксама сайт знешнепалітычнага ведамства піша пра тое, што наведванне мерапрыемства, якое прайшло ў рамках акцыі «Парыж за Алеся Бяляцкага!», стала часткай афіцыйнай праграмы сустрэчы паслоў па правах чалавека 11 мая ў Парыжы, у якой разам з прадстаўніком Францыі Франсуа Зімерэ прымалі ўдзел Ан-Мары Ніроас з Фінляндыі, Іштван Лакатас з Венгрыі, Ліанэль Вір з Галандыі і Ханс Дальгрэн з Швецыі.

**Паводле spring96.org**

### ЕС УЗМАЦНЯЕ ПАДТРЫМКУ

**У маі 2011 года Еўрапейскі саюз завяршыў буйны крытычны агляд сваёй Еўрапейскай палітыкі суседства і прыняў рашэнні на карысць новага падыходу, які скіраваны на падтрымку дэмакратычных рэформ і эканамічнай трансфармацыі, паводле якога тыя з шаснаццаці краін-суседзяў ЕС на поўдні ды ўсходзе, якія больш актыўна праводзяць рэформы, атрымліваюць большую і шырэйшую падтрымку з боку ЕС.**

Прайшоў год, і Еўрапейскі саюз апублікаваў агляд таго, што зроблена пры ажыццяўленні гэтага новага падыходу, і прапанаваў многім краінам-суседзям дарожныя карты для таго, каб надаць большую дынаміку супрацы і партнёрству.

Беларусь не ў поўнай меры ўдзельнічае ў Еўрапейскай палітыцы суседства. Краіна ўдзельнічае ва Усходнім партнёрстве толькі ў шматбаковым фармаце. Еўрапейская служба знешняга дзеяння і Еўрапейская камісія апублікавалі мемарандумы па выніках супрацы з большасцю краін-суседзяў на поўдні ды ўсходзе. Асобны агляд зробленага ў супрацы з Беларуссю не рыхтаваўся, таму што няма Плана супольных дзеянняў з Беларуссю ў рамках Еўрапейскай палітыкі суседства.

**Delegation of the European Union to Belarus**

### БУНДЭСТАГ ПАДТРЫМАЎ СТАТКЕВІЧА

**Дэпутаты Бундэстага ФРГ Ута Цапф, Гернат Эрлер і Франц Тэнес напісалі адкрыты ліст Мікалаю Статкевічу, у якім выказваюць сваю падтрымку.**

25 мая, нагадваюць дэпутаты, спаўняецца роўна год, як Мікалая Статкевіча асудзілі на 6 гадоў калоніі строгага рэжыму. Гэты прысуд застаецца для іх неабгрунтаваным і адвольным.

Дэпутаты выказалі салідарнасць і поўную падтрымку Мікалаю ў яго непахіснай барацьбе, падтрымку ўсім, хто змагаецца за дэмакратыю і за свае палітычныя правы ў Беларусі — у няволі і на волі.

«Мы працягваем, — гаворыцца ў лісце, — патрабаваць неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных з турмаў і калоній, а таксама выканання ў дачыненні да іх канстытуцыйных працэдур і прадстаўлення ім медыцынскага забеспячэння».

Дэпутаты падкрэслілі, што ведаюць пра той моцны маральны, псіхічны і фізічны ціск, які чыніўся і працягвае чыніцца на Мікалая і яго сям'ю, яны захопленыя тым, як мужна Статкевіч вытрываў выпрабаванні, змог захаваць свае палітычныя перакананні і адстаяць уласную пазіцыю для лепшай будучыні Беларусі.

«Дарагі Мікалай, — звяртаюцца дэпутаты да Мікалая Статкевіча, — у Германіі мы вельмі часта абмяркоўваем тваю сітуацыю і сітуацыю ў Беларусі. Мы жадаем табе шмат сілаў і веры! Заставайся моцным і ўпартым! Мы вельмі спадзяемся, што гэтыя ўмовы не змогуць паўплываць на тваю годнасць і тваё здароўе.

У думках мы з табой, тваёй жонкай і дочкамі. Мы былі і застаёмся глыбока прывязаныя да цябе, як палітычна, так і па-сяброўску».

**Уласн. інф.**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# НАВОШТА НАМ АДКБ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ну навошта нам АДКБ? З кім мы збіраемся ваяваць? Па Канстытуцыі, Беларусь — нейтральная дзяржава. Навошта мы лезем у ваенныя блокі? Нам гэта трэба? Не, здаецца, вельмі трэба.**



Пра неабходнасць умацоўваць ваенны складнік АДКБ з акцэнтам на развіццё высокамабільных сучасных спецпадраздзяленняў — калектыўных сіл хуткага рэагавання, аператыўнага разгортвання, міратворчага кантынгенту — заявіў Аляксандр Лукашэнка 15 мая ў Маскве на пасяджэнні сесіі Савета калектыўнай бяспекі АДКБ, паведамляе прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы.

Беларусь, паводле слоў Лукашэнкі, таксама прапануе павысіць бяспеку краін АДКБ ад тэрарызму, наркатрафіку, нелегальнай міграцыі і выклікаў у інфармацыйнай сферы. І ў гэтым плане магчымасці для павышэння эфектыўнасці Арганізацыі дагавора аб калектыўнай бяспецы далёка не вычарпаны, адзначыў ён.

Лукашэнка звярнуў увагу на тое, што Беларусь заўсёды выступала за ўмацаванне наднацыянальных інстытутаў, закліканых забяспечваць бяспеку і стабільнасць для ўсіх краін у роўнай ступені. «Мы зацікаўлены ў канструктыўным дыялогу з міжнароднымі арганізацыямі, такімі, як ААН, АБСЕ, NATO, і ў мірным урэгуляванні канфліктных сітуацый», — заявіў ён.

«Але мы супраць пустой рыторыкі, — дадаў Лукашэнка. — Наша мэта — гэта ўзаемадзеянне, накіраванае на дасягненне канкрэтных і адчувальных вынікаў.

Ён запэўніў, што Беларусь будзе, як і раней, усяляк садзейнічаць якаснаму развіццю АДКБ, яе ўдасканаленню, універсалізацыі і гарманічнай адаптацыі ў сучасным свеце.

Лукашэнка адзначыў, што за невялікі гістарычны перыяд АДКБ выйшла далёка за межы класічнага абароннага блока і на сучасным этапе здольная рэагаваць практычна на любыя пагрозы. «І гэта не толькі нашы ацэнкі», — падкрэсліў ён. «Выступленне з агульных для ўсіх нас пазіцый па актуальных пытаннях міжнароднага парадку дня ясна дэманструе нашым партнёрам, што сёння мы адзіныя», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Па выніках саміту лідары краін АДКБ прынялі дэкларацыю аб агульным падыходзе да ключавых праблем міжнароднай бяспекі. Яны выказалі занепакоенасць «тэндэнцыяй да сілавога ўмяшання ў крызісную сітуацыю ў абыход нормаў і прынцыпаў міжнароднага права» і падкрэслілі «важнасць выкарыстання мірных сродкаў ва ўрэгуляванні канфліктаў пры паваже прынцыпу неўмяшання ва ўнутраныя справы дзяржаў». У дэкларацыі адзначаецца гатоўнасць супрацоўніцтва з усімі міжнароднымі структурамі, у тым ліку ААН, NATO, АБСЕ і ШАС.

Цяперашняя пазачарговая сесія Савета калектыўнай бяспекі АДКБ была прымеркавана да 20-годдзя падпісання Дагавора аб калектыўнай бяспецы і 10-годдзю стварэння АДКБ.

Акрамя таго, Аляксандр Лукашэнка 15 мая ў Маскве прыняў удзел у нефармальным пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц СНД. На саміце абмяркоўваліся пытанні далейшага ўзаемадзеяння ў рамках гэтага інтэграцыйнага ўтварэння, а таксама актуальныя міжнародныя тэмы.

Значная ўвага была нададзена паглыбленню працэсаў эканамічнай інтэграцыі на прасторах Садружнасці. У кастрычніку мінулага года краіны СНД прынялі новы Дагавор аб зоне свабоднага гандлю, заклікaны замяніць цэлы шэраг шматбаковых і двухбаковых пагадненняў. Дакумент павінен надаць новы імпульс развіццю гандлёва-эканамічных адносін. Яго сутнасць заключаецца ў фармаванні адзінай тарыфнай і мытнай палітыкі, ліквідацыі існуючых бар'ераў у гандлі. Паводле слоў Лукашэнкі, Беларусь лічыць прыярытэтам у СНД гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва.

У сваю чаргу прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін звярнуў увагу на трывалыя сувязі, якія аб'ядноўваюць усе дзяржавы СНД. «Мы эфектыўна функцыянаваць, развівацца ў адрыве адзін ад аднаго не можам», — падкрэсліў ён.

Па выніках нефармальнага пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД вырашана 2013-ы ў Садружнасці абвясціць Годам экалагічнай культуры і аховы навакольнага асяроддзя. Гэты год у СНД прысвечаны спорту і здароваму ладу жыцця.

Ужо колькі разоў казалі пра СНД. І яно ўсё яшчэ неўміручае. І — зноў мы сябруем з Расіяй.

«Дзякуючы Расійскай Федэрацыі за апошнія чатыры гады мы змаглі дасягнуць у інтэграцыі самых высокіх вынікаў», — заявіў Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы ў Маскве з экс-прэзідэнтам і цяперашнім прэм'ер-міністрам Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым.

«Ваша рашучасць, нават часам рызыка, што трэба калісьці вырашаць гэтыя пытанні, прывялі да таго, што мы сёння на постсавецкай прасторы маем самую прасунутую інтэграцыю і ў АДКБ, і ў ЕўрАзЭС, і на прасторы Мытнага саюза і АЭП, з якой лічацца нават нашы праціўнікі. Гэта дарагога каштуе», — цытуе кіраўніка беларускай дзяржавы яго прэс-служба.

«І тое, што Расія змагла зрабіць гэтыя крокі, — вялікая ваша заслуга. Пра гэта не толькі я кажу», — дадаў Лукашэнка.

Ён павіншаваў Мядзведзева з прызначэннем на пасаду кіраўніка ўрада. «Гэтую тэму мы паднялі з маёй падачы на закрытым пасяджэнні АДКБ. Я выказаўся ў тым плане, што як для прэзідэнта Уладзіміра Пуціна праца на прэм'ерскай пасадзе, так і Дзмітрыя Мядзведзева пасля прэзідэнцтва на прэм'ерскай пасадзе, мала што мяняе. Таму што ў велізарнай Расіі задач столькі, што цяжка іх падзяліць паміж прэм'ерам і прэзідэнтам», — сказаў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, гэта пацвярджае і той факт, што Мядзведзеў паедзе на саміт «Вялікай васьмёркі». «Быццам прэзідэнцкія паўнамоцтвы — нічога падобнага. І прэм'ер вырашае такія пытанні, — адзначыў Лукашэнка. — Хачу сказаць, што мала што зменіцца ў вашым жыцці. Нагрузка ўзрасце».

«Я вельмі спадзяюся, што мы заўсёды будзем канструктыўна супрацоўнічаць, і нашы сустрэчы будуць вельмі плённыя», — адзначыў беларускі кіраўнік.

«Упэўнены ў гэтым», — заявіў яму ў адказ Мядзведзеў.

Кіраўнік расійскага ўраду заўважыў, што гэта першая яго сустрэча з Лукашэнкам у новай якасці. «Але я ўпэўнены, што ў нас будзе шмат добрых падстаў для таго, каб працягнуць нашы зносіны: і асабістыя, і з тым, каб адносіны паміж Беларуссю і Расіяй умацоўваліся, развіваліся на карысць двух народаў, каб тыя інтэграцыйныя працэсы, да якіх мы датычныя і якімі мы займаліся ў апошнія гады, таксама прынеслі плён для развіцця нашых краін і народаў», — падкрэсліў Мядзведзеў.

А як жа серыял «Хросны бацька»?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АНДРЭЙ МЕЗІН



Адзін з лепшых хакейных галкіпераў Беларусі Андрэй Мезін самавольна пакінуў зборную краіны. Ён асабіста прыняў рашэнне пакінуць размяшчэнне зборнай і з'ехаць з Чэмпіянату свету ў разгар першынства. Пра гэта паведаміў 11 мая пасля паразы ад зборнай ЗША галоўны трэнер беларускай зборнай Кары Хейкіля. «Андрэй пакінуў зборную. Сабраў рэчы і з'ехаў. Відавочна, справа ў псіхалогіі: брамнік не задаволіла яго гульня і роля ў камандзе», — выказаў меркаванне фінскі спецыяліст, перадае «Прэсбол».

Па словах настаўніка беларусаў, ніякай размовы перад ад'ездам Андрэя Мезіна паміж ім і галкіперам не было. Кары Хейкіля мяркуе, што ўчынак брамніка тлумачыцца эмоцыямі, «якія хутка ўлягуцца».

«Мы нармальна пагаворым з Андрэем, усё абмяркуем, так што нічога не выключана», — сказаў трэнер і дадаў, што ў астатніх матчах вароты беларускай зборнай будзе абараняць Віталь Коваль.

### УЛАДЗІМІР БАРАДАЧ



Былыя супрацоўнікі сілавых ведамстваў Беларусі ініцыююць аргкамітэт па стварэнні пераходнага ўрада. У Вільні ўжо адбыўся сход аргкамітэта, у бліжэйшы час будуць апублікаваныя яго прынцыпы барацьбы, мэты і задачы. Пра гэта распавялі былы палкоўнік спецназа Уладзімір Барадач і былы маёр КДБ Ануфрый Рамановіч.

Паводле слоў Уладзіміра Барадача, нягледзячы на тое, што арганізацыю ствараюць за мяжой, яе касцяк знаходзіцца ў Беларусі. Як лічаць арганізатары, гэта дазволіць пазбегнуць уплыву спецслужбаў на працу арганізацыі. На дадзены момант ініцыятары аргкамітэта праводзяць перамовы з прадстаўнікамі палітычных сілаў у Беларусі, паведамляе беларуская служба «Польскага радыё».

«Спецслужбы раскалолі наш дэмакратычны рух. Многія асобы з кіраўніцтва апазіцыйных партый кіруюцца спецслужбамі. Час гэта змяніць. Мы не прапануем сябе ў лідары. Мы шукаем лідараў. Калі ласка, Мілінкевіч, Саннікаў, Някляеў, Казулін і іншыя. Мы не раз'ядноўваем партыі, мы хочам іх аб'яднаць», — заявіў Уладзімір Барадач.

Варта адзначыць, што ў эміграцыі ўжо дзейнічае шэраг беларускіх палітычных арганізацый. Сярод іх — Рада заснаванай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікай на чале з Івонкай Сурвілай.

### «ЛЕНИНГРАД»

Генпракуратура Беларусі вынесла папярэджанне арганізатарам канцэрту гурта «Ленинград» аб недапушчальнасці нецэнзурнай лаянкі падчас выступу ў Мінску 18 мая. Начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законных прававых актаў Генеральнай пракуратуры Беларусі Павал Радзівонаў адзначыў, што «арганізатары канцэрту расійскай групы пагадзіліся правесці гутаркі аб недапушчальнасці выкарыстання нецэнзурнай лаянкі падчас канцэрту ў Мінску, яны ўсведамляюць адказнасць за выкарыстанне адкрытага мацюка і хамства ў цывілізаваным грамадстве».

Радзівонаў падкрэсліў, што, паводле беларускага заканадаўства, ненарматыўная лексіка ў грамадскіх месцах класіфікуецца як хуліганства. За дадзенае правапарушэнне прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці.

«Еўрарадыё» даведалася, што самі музыкі пра гэта пакуль не ведаюць і не ўяўляюць нават магчымасці абсыціся на канцэрце без табуяванай лексікі.

— Гэта магчыма ў пэўных выпадках! — разважае над пытаннем «Еўрарадыё» пра цэнзураваны выступ «Ленинграда» піяршчык групы Дзмітрый Гугучкін. — Напрыклад, мы выступалі на матчы «Зеніт» — «Спартак», але выконвалі там усяго чатыры песні, якія спецыяльна адабралі, каб не гучалі мацюкі. Але адыграць цэлы канцэрт без мацюка нерэальна. Думаю, гэтая ідэя наўрад ці спадабаецца Сяргею Шнураву. Па вялікім рахунку, гэта павінна быць праблемай арганізатараў. З песні слоў не выкінеш, таму выконваць песні ў нейкім перапрацоўным варыянце — нонсэнс.

Піяршчык жартам дадаў, што выступіць у звычайным фармаце, а затым заплаціць штраф або сесці на 15 сутак Сяргею таксама наўрад ці спадабаецца. Таму, калі арганізатары ў бліжэйшы час не знойдуць выхаду, канцэрт трэба будзе адмяняць.

Раней прывіць маральнасць спрабавалі музыкам «Rammstein» і Элтану Джону.



АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПРА РОЛЮ ЗАПАЛАК І ВОЦАТУ Ў ЭКАНАМІЧНЫМ КРЫЗІСЕ

Сяргей НІКАЛЮК

**Адам Сміт не разглядаў пачуццё патрыятызму як крыніцу эканамічнага росту. Не выключана, што ён памыляўся.**




Я хачу пачаць «Азбуку паліталогіі», прысвечаную чарговаму пасланню «адзінага палітыка» (АП), з ключавой цытаты: *«Наши основополагающие принципы и наш путь неизменны. Но это не означает, что Беларусь навсегда остаётся прежней. Изменяется время, и надо смело идти дальше. Мы не должны отстать! Необходим мощный, стремительный рывок вперед. Это касается всех сфер жизнедеятельности государства. И прежде всего фундамента — экономики».*

Пра неабходнасць рыўку я ўжо дзесьці чуў. Адкрываю тэчку «АП» і з дапамогай пошукавіку знаходжу адпаведную цытату ў Пасланні–2008: *«Беларуси нужен качественный рывок, новое качество жизни».* Няцяжка заўважыць, што канчатковая мэта «імклівага рыўку» не супадае з мэтай «якаснага рыўку». Чатыры гады таму гаворка ішла пра «новую якасць жыцця», сёння — пра «жыццядзейнасць дзяржавы».

Тут няма нічога нечаканага. Звычку груваціць планы па паляпшэнні жыцця насельніцтва наша ўлада атрымала ў спадчыну ад «адданых ленінцаў». Ад іх жа яна навучылася незаўважна падмяняць старыя планы-абяцанні новымі. Хрушчоў абяцаў праз 20 гадоў пабудаваць камунізм, Брэжнеў у 1980 годзе з размахам правёў Маскоўскую алімпіяду. Наш галоўны кандыдат у прэзідэнты ў 2006 годзе браў на сябе абавязак за пяць гадоў давесці якасць жыцця беларусаў да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім, а калі абяцаны час скончыўся, запэўніў, што яшчэ праз пяць гадоў узровень жыцця ў Беларусі толькі наблізіцца да еўрапейскага.

## Рыбку з’есці і…

Аднак вернемся да імклівага рыўку. АП, які паабяцаў здзейсніць яго ва ўсіх сферах жыццядзейнасці дзяржавы, у пасланні засяродзіўся выключна на эканоміцы. Крыўдна. Мне ўжо не адзін раз даводзілася звяртаць увагу чытачоў на архаічнасць беларускай дзяржавы. Яна, паводле філосафа Юргена Хабермаса, працягвае канцэнтраваць свае высілкі на вытворчых задачах, у той час як сучасная дзяржава — дзяржава адміністрацыйная, кола непасрэдных абавязкаў якой абмежавана «ўсеагульнымі ўмовамі вытворчасці», г. зн. прававымі рамкамі і інфраструктурай, неабходнай для рынкавага абароту.

Сярод дваццаці сусветных лідараў па ўзроўні прыбытку на душу насельніцтва — толькі чатыры нафтаздабываючыя краіны: Катар, ААЭ, Кувейт і Бруней. Уся чацвёрка мае невялікую колькасць насельніцтва. Інакш высокіх прыбыткаў на сярэднестатыстычную душу за кошт нафты не атрымаць. Сярод жа астатніх 16-ці краін мы не сустрэнем прыкладаў, калі б палітычныя эліты разглядалі эканоміку ў якасці падмурку дзяржавы (дзяржаву неабходна адрозніваць ад краіны).

Але гэта іх праблемы. *«Наши основополагающие принципы и наш путь, — как уже было отмечено, неизменны».* Не адстаць ад астатняга свету нам дапаможа мадэрнізацыя эканомікі. У яе аснове ляжаць добра знаёмыя па ранейшых выступах АП праекты: імпартазамяшчэнне, экспарт, арыентацыя на мясцовую сыравіну і інш. Не абышлося і без чарговых ноў-хаў. Па-першае, ураду і ўсёй «вертыкалі» ўлады прапанавалі ў загадным парадку *«радикально менять психологию»*, што ў перакладзе з эзопавай мовы на побытавую азначае канчатковае расстанне з надзеямі на *«щедрый поток государственного финансирования».* Па-другое, на той жа склад кіраўнікоў будзе ўскладзена адказнасць за *«реализацию нескольких проектов, под которые привлекаются прямые инвестиции».* Адкрывае спіс прэм’ер-міністр. Яму давядзецца «радыкальна мяняць псіхалогію», узяўшы пад кантроль мадэрнізацыю баваўнянага прадпрыемства ў Баранавічах.

Тут неабходна тлумачэнне. На Захадзе мадэрнізацыя — бесперапынны працэс, які самаразвіваецца і ідзе «знізу». Галоўным суб’ектам такой мадэрнізацыі выступае само грамадства. У савецкі і дасавецкі час мадэрнізацыі ў рэжыме, які даганяе, ажыццяўляліся дзяржавай «зверху», і зводзіліся яны да закупкі імпартнага абсталявання і запазычання гатовых тэхналогій.

Адкрыйце любы слоўнік: «мадэрнізацыя — гэта пабудова грамадства мадэрну, гэта значыць сучаснага грамадства еўрапейскага кшталту». А далей звыклыя словы пра грамадзянскія свабоды, незалежныя СМІ і іншыя прыбамбасы, без якіх грамадства не здольнае трансфармавацца з пакорлівага выканаўца каманд (аб’ектнага стану) у актыўнага ініцыятара змен (суб’ектны стан). Чаму ж тады на працягу стагоддзяў родная ўлада абмяжоўвала свае мадэрнізатарскія парывы закупкай абсталявання? А таму, што яна ўвесь час адчувала патрэбу *«рыбку съесть и ноги не замочить»*, іншымі словамі, заставацца адзіным палітычным суб’ектам і пры гэтым падтрымліваць устойлівы эканамічны рост.

## Хто друкаваў пустыя грошы?

Гісторыя вучыць, а тэкст Паслання–2012 пацвярджае, што наяўнасць палітычнага суб’екта ў адзіночным ліку не спрыяе яго адказнасці перад грамадствам. Спынюся, напрыклад, на прамых замежных інвестыцыях. *«Говорим мы об этом много, а толку пока не очень».* Здаецца, і са стабільнасцю ў нас усё добра, і ўзровень карупцыі нізкі, а не спяшаюцца да нас замежныя бізнэсмэны.

АП тлумачыць маруднасць інвестараў сцяной бюракратызму і абыякавасці, *«с которой они сталкиваются в исполкомах и министерствах».* Чатырма гадамі раней у Пасланні–2008 бюракратычны воз, які стаяў на шляху інвестараў, апісваўся ў тых жа выразах. Інвестар, маўляў, да нас *«сам идёт, а мы его отталкиваем или пропускаем через такие круги волокиты, что отбиваем всякое желание работать».* Каб вырашыць гэту праблему, ураду было даручана неадкладна распрацаваць механізм суправаджэння інвестыцыйных праектаў, адным з ключавых элементаў якога павінен быў стаць абавязак чальцоў урада вадзіць фундатараў *«за руку по кабинетам».*

Тады ж была пастаўлена задача па ўваходжанні Беларусі ў трыццатку найлепшых у свеце дзяржаў паводле інвестыцыйнага клімату. Задача пастаўленая і забытая. Традыцыя, аднак.

Не буду хаваць, я з нецярпеннем чакаў аналізу прычынаў эканамічнага крызісу, які захлынуў Беларусь ва ўмовах досыць спрыяльнай знешняй кан’юнктуры ў 2011 годзе. Гэтым ён адрозніваўся ад свайго папярэдніка — крызісу 2009 года. Працытую ключавы фрагмент: *«Почему мы скатились — вы прекрасно знаете. Меня обвинять и государство в этом не надо. Мы хотели скупить уксус, спички, спирт и прочее. Под кровать, в гаражи всё сложили. Там сегодня целые склады. Обрушили национальную валюту. По 20 автомобилей на брата завозили. Виноваты в этом все мы. А если государство там чего-то напечатало, то вы знаете, куда эти деньги пошли».*

Вось, высвятляецца, у чым справа! Беларусы, якія пачалі скупляць воцат і запалкі, абрынулі нацыянальную валюту. Вось тут я разгубіўся. Ва ўступнай частцы Паслання–2012 усведамленне неабходнасці жыць па сродках АП назваў галоўным урокам сусветнага крызісу. Далей ён растлумачыў: *«Нельзя тратить больше, чем заработал. Есть деньги — трать их. Нет — зарабатывай. Печатать пустые деньги или жить в долг — это путь в тупик».* Прабачце, а хто ў нас друкуе пустыя грошы? Сярод маіх знаёмых і знаёмых маіх знаёмых спецыялістаў па друкаванні грошай няма. Дый што значыць: *«Есть деньги — трать их»?* Мы ж іх і выдаткоўвалі (на воцат, на запалкі, спірт і іншае). Якія да нас прэтэнзіі? У беларускіх крамах у пазыку тавары не адпускаюць. Такім чынам, выдаткаваць больш, чым зарабілі, мы не ў стане.

Па выніках 2011 года ўнёсак дробнага гандлю ў фармаванне тэмпу росту ВУП склаў 2,4% (у 2010 годзе — 1,4%). Мы ж, калі скуплялі воцат і складалі яго пад ложак, дапамагалі роднаму ўраду нарошчваць ВУП. Я так разумею сувязь паміж скупкай воцату і асноўным эканамічным макрапаказчыкам. Хто лічыць, што я не маю рацыю, хай кіне ў мяне камень.

## Не дзякуючы, а насуперак

Пасланне–2012 у чарговы раз зафіксавала факт заўчаснага скону дзяржаўнай ідэалогіі. АП не згадаў пра яе ні разу, працягнуўшы тым самым традыцыю, закладзеную ў Пасланні–2011. Нагадаю, ідэалагічны падмурак дзяржаўнай ідэалогіі трымаецца на трох сланах: калектывізме, патрыятызме і сацыяльнай справядлівасці, якія ў сваю чаргу стаяць на чарапасе грамадска карыснай працы без разліку на матэрыяльную ўзнагароду.

З трох сланоў на сённяшні дзень у жывых застаўся адзін — патрыятызм. Жывая і чарапаха, гэта пацвярджае наступная цытата: *«Богатство — не самоцель. Убежден: движущей силой прогресса являются не материальные блага, а патриотизм».* Ніколі раней з падобнай роляй патрыятызму мне сутыкацца не даводзілася. Так, адзін з заснавальнікаў эканамічнай навукі Адам Сміт меркаваў, што для багацця народаў, г. зн. для эканамічнага росту, неабходныя ў першую чаргу мір, нізкія падаткі і разумныя законы.

Радзіма першага — «эканамічны цуд» — Галандыя, краіна, размешчаная ніжэй узроўню мора, якая разбагацела не дзякуючы, а насуперак сваім прыродным умовам. Галандыя стала першай рэспублікай у Еўропе, якая вызначалася як рэлігійнай памяркоўнасцю (і гэта ў той час, калі па ўсім кантыненце квітнела дыскрымінацыя па рэлігійнай прыкмеце), так і надзейнымі гарантыямі правоў уласнасці. Адкрытасць ператварыла Амстэрдам у цэнтр прыцягнення прадпрымальных людзей Еўропы. Імігранты і зрабілі асноўны ўнёсак у будаўніцтва фінансавай і гандлёвай сталіцы з яе першай у свеце фондавай біржай.

«Эканамічныя поспехі, якіх у розныя часы дамагаліся Гамбург, Ганконг, Сінгапур, Тайвань і Заходняя Германія, — сцвярджае канадскі эканаміст Рэйвен Брэнер, — па характары шмат у чым нагадваюць прыклад з Амстэрдамам. У кожным з гэтых выпадкаў дзяржава забяспечвала законнасць і парадак, спаганяла параўнальна невялікія падаткі і абуджала ў людзях зацікаўленасць у дзелавой актыўнасці, тым самым прыцягвала імігрантаў і прадпрымальнікаў з усяго свету».

У Беларусі мы назіраем адваротную карціну — эканамічна актыўныя грамадзяне пакуюць валізкі і адпраўляюцца на заробкі ў краіны блізкага і далёкага замежжа. Вось і даводзіцца бацьку-заснавальніку беларускай дзяржаўнай ідэалогіі спадзявацца на патрыятызм. А што яму яшчэ застаецца?

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# ЖАДАЮЧЫЯ, ПРЫХОДЗЬЦЕ!

Вольга ХВОІН

**Беларусь не пойдзе на перадачу кантрольнага пакета акцый Мінскага аўтамабільнага завода холдынгу «Расбелаўта», які ствараецца з удзелам расійскай дзяржкарпарацыі «Растэхналогіі» і КамАЗа, заявіў першы віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка. Таксама чыноўнік папярэдзіў, што не будзе прададзены і кантрольны пакет акцый найбольш прывабнага для інвестараў беларускага прадпрыемства — ААТ «Беларуськалій».**

«Мы не згодныя на кантрольны пакет (перадачу кантрольнага пакета акцыяў МАЗа). Гэта розныя ўмовы», — заявіў Сямашка 16 мая ў Мінску. Сямашка дадаў, што беларускі і расійскі бакі працягваюць перамовы, якія ідуць досыць напружана: «Мяркую, што не пазней за май мы разгледзім гэтае пытанне на прэзідыуме Саўміна і прымем нейкае рашэнне». «Тады мы будзем ужо нешта прапаноўваць», — паабяцаў чыноўнік.

Пакуль бакі вядуць перамовы. «Яны няпростыя, бо ў нас розныя пазіцыі — прадавец хоча прадаць даражэй, пакупнік — купіць танней». Беларускі бок згодны ўвайсці «ў нейкі альянс з КамАЗам». «Мы ідзем да стварэння альянсу ў выглядзе холдынгу «Расбелаўта». Мы не ворагі, а партнёры. Нам трэба аб'ядноўвацца і разам канкураваць на рынках», — заявіў першы віцэ-прэм'ер.

Выступаючы сёлета з традыцыйным пасланнем народу і парламенту Беларусі, Аляксандр Лукашэнка патлумачыў, па якім прынцыпе будзе ісці прыватызацыя беларускіх прадпрыемстваў: 75% дзяржаве, 25% прыватным акцыянерам, прычым з абмежаваннем па колькасці акцый у адны рукі. Лукашэнка расказаў, што гэта зроблена, каб пазбегнуць фармавання ў прыватнікаў буйных пакетаў акцый, здольных уплываць на палітыку прадпрыемстваў.

«Я чую незадаволенасць «багаценькіх»: чаму абмежаваная колькасць акцый, якія прадаюцца ў адны рукі. У чарзе стаяць 10 бізнесменаў, якія хочуць купіць гэты завод, але мы яго не прадалі, таму што хочуць за бясцэнак купіць. Як вызначыць рынак цану, па гэтай цане будзем прадаваць прадпрыемства, калі будзем», — патлумачыў кіраўнік дзяржавы прынцыпы прыватызацыі на прыкладзе Мінскага заводу ігрыстых вінаў.

Таксама ён расказаў пра прычыны, па якіх прыняў рашэнне адмовіцца ад прыватызацыйных спісаў: «Апублікаванне загадзя спісаў прыватызуемых прадпрыемстваў — гэта прыніжэнне работнікаў. У Беларусі можа быць прыватызавана любое прадпрыемства на пэўных і вядомых умовах».

Гаворачы аб прыватызацыі МАЗа, Аляксандр Лукашэнка запэўніў, што ўлады не спяшаюцца прадаваць прадпрыемства, бо сёння МАЗ — паспяховая і буйная вытворчасць, якая не мае праблем з рэалізацыяй сваёй прадукцыі.

«Неабходны магутны, імклівы рывок наперад», — гаварыў Лукашэнка аб інвестыцыйных працэсах. Ён даручыў кожнаму чальцу ўрада і кіраўнікам аблвыканкамаў узяць пад асабістую адказнасць інвестыцыйныя праекты. «Больш раздачы грошай агулам не будзе — яе ўжо няма, гэтай раздачы», — папярэдзіў кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў лідар дзяржавы. Ён выказаўся пра непрымальнасць расійскага досведу прыватызацыі па ваўчарах і залогавых аўкцыёнах. «Ніякіх абвальных і масавых распродажаў не будзе!» — падкрэсліў Лукашэнка. Ён таксама адзначыў, што «любое прадпрыемства сёння можа быць прыватызавана — пытанне ў цане і выкананні інвестарам умоў».

Наконт цаны: у сваім выступе Лукашэнка падняў кошт аднаго з найбольш прывабных для інвестараў аб'екту эканомікі — ААТ «Беларуськалій». «Мы гатовы прыватызаваць «Беларуськалій», дзе рэнтабельнасць 70–100%. Але гэта пытанне цаны. І мы гэты кошт назвалі. І сёння гэта ўжо не 30 мільярдаў долараў, а 31,5–32 мільярда. Жадаючыя, прыходзьце», — заявіў Лукашэнка. Эксперты гавораць, што гэтая ацэнка актыву істотна завышаная.

Праз тыдзень першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка ўдакладніў, што Беларусь «ніколі, ні пры якіх умовах» не прадасць кантрольны пакет акцый «Беларуськалія». «Гэта будзе злачынства супраць дзяржавы», — сказаў чыноўнік.

Летась «Беларуськалій» спрабаваў набыць расійскі «Уралкалій», ацаніўшы актыў у 14 мільярдаў долараў. «Беларуськалій» займае каля 16% сусветнага рынку калійных соляў, пастаўкі ажыццяўляюцца больш чым у 50 краін свету. Размовы аб прыватызацыі «Беларуськалія» вядуцца не першы год. Цікаўнасць да прадпрыемства праяўлялі Кітай, Індыя, Расія.

На пачатку года старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Беларусі Георгій Кузняцоў заяўляў, што Беларусь сёлета мае намер атрымаць 2,5 мільярда долараў ад прыватызацыі 19 прадпрыемстваў балансавым коштам блізу 7 трыльёнаў беларускіх рублёў. Кузняцоў адзначаў, што дзяржава спадзяецца на аўкцыёны, дзе актывы будуць прададзеныя па рэальных цэнах.

Нагадаем, план прыватызацыі ў 2011 годзе быў правалены. У адпаведнасці з пастаўленымі ўрадам задачамі, меркавалася прадаць акцыі 180 ААТ з агульным балансавым коштам 1,3 трыльёна рублёў. Было абвешчана 225 таргоў, на якія выстаўлены 140 адкрытых акцыянерных таварыстваў. Але ў выніку новых гаспадароў знайшлі толькі 38 прадпрыемстваў, сума здзелак склала 170 мільярдаў рублёў. У асноўным прадаваліся прадпрыемствы дрэваапрацоўкі, будаўніцтва, транспарту. Найбольш буйным аб'ектам прыватызацыі быў 50-працэнтны пакет акцый «Белтрансгазу» на суму 2,5 мільярда долараў.

У экспертаў песімістычны прагноз і наконт маштабу прыватызацыі ў бліжэйшай перспектыве. «Цяжкасць сітуацыі, у якой сёння апынулася Беларусь, заключаецца ў сур'ёзных выкліках з прычыны нізкай эфектыўнасці і неканкурэнтаздольнасці айчыннай эканомікі. Экспертная супольнасць адзіная ў меркаванні, што прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў і прыход на іх больш эфектыўнага прыватнага ўласніка — не проста неабходная на фоне цяперашніх эканамічных цяжкасцяў, але непазбежная ў краіне, якая не валодае ўласнымі значнымі запасамі рэсурсаў і якая мае адкрытую імпартазалежную і экспартаарыентаваную эканоміку. Аднак супярэчнасці, што ствараюцца прыватызацыйным працэсам, у большасці выпадкаў будуць па-ранейшаму непрымальныя для кіраўніцтва краіны, і таму сістэмная прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў і павелічэнне прыватнага сектара эканомікі ў Беларусі ў кароткатэрміновай перспектыве бачацца малаверагоднымі», — рэзюмуе Андрэй Скрыба, эканаміст даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту.



КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# СВІННЯМ ПАД ХВОСТ

**Раз-пораз беларусам прапануюць найноўшыя тэхналогіі эканамічнага ажыўлення і падвышэння дабрабыту. Адной з апошніх такіх прапаноў стаў праект будаўніцтва прадпрыемства па вытворчасці беконнай свініны паблізу вёскі Даўгулеўшчына Валожынскага раёна.**



Фінансаванне мяркуе ажыццявіць сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Данпрод». Ужо пачаўся набор кіруючага і адміністрацыйнага персаналу, распачаты падрыхтоўчыя работы. Для будаўнічай пляцоўкі абрана засеянае рапсам поле сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Першаі». Калі б па розуму, то трэба было б пачакаць да восені, пакуль гэта культура саспее. Але імкненне каваць жалеза пакуль яно гарачае, мусіць, вызначае не толькі сэнс усяго праекта, але і кожнай яго стадыі.

Тэхналогія прамысловай жывёлагадоўлі ўзнікла на Захадзе ў адказ на патрэбы ўрбанізацыі і ва ўмовах прыватнай уласнасці. Калі ў мэтах рацыяналізацыі выдаткаў на ўтрыманне гарадоў можна пакаваць народам гарадскія спальныя кварталы, то чаму б гэта не рабіць з хатняй жывёлай? Так на Божы свет з'явіліся першыя жывёлагадоўчыя камбінаты.

У Беларусі такія комплексы народ назваў «свінагарадамі». Большасць з іх па колькасці жыхароў пераўзыходзіла раённыя цэнтры. Маштабы і канцэнтрацыя вытворчасці дазвалялі партыйным публіцыстам лічыць БССР не толькі «зборачным цэхам», але і «ўсесаюзным свінарнікам». Рэспубліка ў абмен на цэнтралізаваныя пастаўкі мяса і мясных вырабаў атрымоўвала прэферэнцыі на пастаўкі прамысловых рэсурсаў. Да гэтай сітуацыі настолькі прызвычаіліся, што ніхто нават не задаваўся пытаннем: чаму пры такой колькасці жывёлагадоўчых комплексаў, у Мінску, не кажучы пра іншыя гарады, мясны дэфіцыт іншы раз набываў памеры натуральнага голаду?

Тым не менш, і плён быў відавочным. Як сцвярджалі некалі блізкія да афіцыйных крыніц асобы, Машэраў дамовіўся з Касыгіным аб фінансаванні будаўніцтва мінскага метро коштам падвышэння мясных паставак у саюзны фонд. Кілбасу б тую даўно з'елі і забыліся. А метро засталося.

Прадпрыемства ў Даўгулеўшчыне разлічана на 110 тысяч галоў і займе плошчу ў 2,5 тысячы гектараў. Як паведамляюць СМІ, будаўніцтва «часткова або цалкам» закранае саму Даўгулеўшчыну (з прылеглымі хутарамі), а таксама Канюшэўшчыну, Макрычаўшчыну, Лайкоўшчыну, Сугвозды, Путачы, Ласоўкіна, Цябуты.

Звычайныя беларускія вёскі са звычайнымі паэтычнымі імёнамі. Можна многае сказаць пра тое, што яны перажылі і што пабачылі. Валожыншчына — самабытны, маляўнічы і па-свойму непаўторны рэгіён з багатымі гістарычнымі, духоўнымі і культурнымі традыцыямі, які стаў радзімай многіх выбітных дзеячаў.

І зараз усё гэта харство, гэты культурны патэнцыял, па якім будуць вызначаць цывілізацыйную ролю мясцовага люду, можа пайсці, літаральна кажучы, свінням пад хвост. Справа ў тым, што такая неймаверная канцэнтрацыя жывёл на адносна абмежаваных пляцоўках, прыводзіць да недапушчальнага падвышэння шкодных выкідаў у навакольнае асяроддзе. А гэты ж комплекс будуюць па дацкай тэхналогіі, згодна з якой санітарная зона вакол прадпрыемства не перавышае аднаго кіламетра. Гэта значыць, што ўсё бліжэйшае наваколле будзе забруджана. Бо асноўнай экалагічнай праблемай прамысловай свінагадоўлі з'яўляецца выдзяленне метану і амізчнага газу. Як паведамляюць адмыслоўцы, канцэнтрацыя газаў настолькі высокая, што ў выпадку аварыі ў сістэме вентыляцыі (якая працуе бесперапынна) свінні дохнуць ад удушша.

А людзі? Чым тады дыхаць ім? Што тычыцца саміх свінаводаў, то, паводле дадзеных статыстыкі, атручаныя газамі для іх становіцца з'явай рэгулярнай, у іх на гэтай глебе развіваюцца хваробы страўніка, вачэй і нават галаўнога мозга.

Зразумела, за тэхналагічны прагрэс трэба плаціць. Але ці не будзе такая плата занадта высокай? І настолькі смярдзючай, што тут нават гістарычная прымаўка — грошы не пахнуць — выпадае з ужытку. У ЗША, Даніі, іншых краінах гэтыя тэхналогіі пад ціскам грамадскасці ўжо забароненыя. Грамадскасць пратэстуе супраць негуманнага ўтрымання жывёл і чалавечага персаналу, для якіх стварающа свінскія ўмовы працы. З гэтай нагоды буйныя заходнія фірмы імкнуцца перанесці вытворчасць у такія краіны, як наша.

У выніку складаецца сімпатычная схема падзелу барышоў і інтарэсаў: фірма мінімізуе свае інвестыцыйныя і бягучыя вытворчыя выдаткі, прадукцыя атрымоўваецца таннай, але рэалізуецца на рынках багатых краін. Гэта гарантуе манапольна высокія набыткі. А беларускія ўлады атрымоўваюць палітычны капітал, і права на «распіл» створаных даброт.

Астатняму паспалітаму люду застануцца непрыемныя пахі, забруджаныя ручаі і рэкі, атручаная атмасфера.

▸ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# АДМОЎЛЕНА Ў ПРАВЕ НА СУД

Генадзь КЕСНЕР

**Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька атрымаў адказ з суда Цэнтральнага раёна Мінска на сваё патрабаванне распачаць крымінальную справу ў дачыненні да Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі.**



Дагэтуль апазіцыйнаму палітыку КДБ адмаўляецца вярнуць некаторыя асабістыя рэчы, якія ў яго забралі падчасператрусу ў яго кватэры і знаходжання ў следчым ізалятары — «амерыканцы» пасля падзеяў у беларускай сталіцы 19 снежня 2010 года.

Варта адзначыць, што крымінальная справа супраць палітыка ўвогуле была спыненая, а сам Анатоль Лябедзька ў красавіку 2011 года быў вызвалены і нават не прадстаў перад судом. Тым не менш, яго рэчы чамусьці працягваюць заставацца «пад арыштам», а суд з нейкага свайго разумення адмаўляецца прымаць позву палітыка да разгляду.

Кіраўнік АГП распавёў падрабязнасці «Новаму часу».

— Гэта справа «з барадой», і звязана яна з маім знаходжаннем у СІЗА КДБ і крымінальнай справай, па якой я праходзіў. Падчас усіх тых падзеяў быў вобшук, у мяне дома канфіскавалі грошы, камп’ютары, інфармацыйныя матэрыялы, потым у СІЗА забралі дзённікі, якія я вёў. Некаторыя рэчы мне вярнулі, а некаторыя працягваюць заставацца ў КДБ. Як законапаслухмяны грамадзянін, я прайшоў па ўсяму колу — звярнуўся ў КДБ, у следчую групу, у новы Следчы камітэт, які з’явіўся за гэты час, але вынік быў нулявы. Я быў вымушаны звяртацца ў суд, але там — тое ж самае. З таго адказу, што я атрымаў, як мне падаецца, суд мне гаворыць, што ёсць катэгорыя грамадзян, у якіх дэ-юрэ ёсць правы, але дэ-факта яны абмежаваныя. Мне, у прынцыпе, сказалі, што я вычарпаў магчымасці вырашыць сваё пытанне ў прававым полі. Так што буду шукаць іншыя шляхі і падыходы для вырашэння гэтай праблемы.

***— Што гэта могуць быць за шляхі і падыходы?***

— Можна ісці пікетаваць, рабіць нейкія акцыі. У дадзеным выпадку я кажу пра радыкалізацыю сітуацыі дзеля вырашэння гэтага пытання. Але я вымушаны тое зрабіць. Калі суд адмаўляе, КДБ не рэагуе, пракуратура разводзіць рукамі, а Следчы камітэт робіць бровы домікам, то што яшчэ застаецца? Змагацца ўсё роўна трэба.

***— З чым звязана ўзнікненне падобнае сітуацыі?***

— Калі б я выйшаў у красавіку мінулага года са Следчага ізалятара КДБ і сказаў, што я дапусціў брутальныя памылкі, прынёс пакаянне, заявіў, што ўлада ў нас не самая дрэнная, альбо проста маўчаў, то, відаць, гэтае пытанне было б вырашана практычна адразу. Але ў нас ёсць «свае» і «чужыя». Калі ты «чужы», ды яшчэ з нейкімі пазіцыямі і прынцыпамі, то з табой — вайна. Прычым усімі дазволенымі і недазволенымі сродкамі і метадамі.

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПАЛІТЫЧНЫ КАНВЕЕР ПРАЦУЕ

Вольга ХВОІН




**На гэтым тыдні асаблівая пільную ўвагу прадстаўнікі сілавых структур праявілі да актывістаў моладзевых арганізацый.**

Так, актывісты зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі «Малады фронт» Раман Васільеў і Дзмітрый Крамянецкі 15 мая былі асуджаныя судом Цэнтральнага раёна Мінска да 12 і 10 сутак арышту адпаведна за дробнае хуліганства. Актывіст «Маладога фронту» Мікалай Дземідзенка быў асуджаны да 10 сутак арышту таксама за дробнае хуліганства.

Васільева, Крамянецкага і Дземідзенку затрымалі ў Мінску даволі арыгінальным спосабам. Людзі ў цывільным адкрылі сваім ключом дзверы кватэры, дзе знаходзіліся актывісты «Маладога Фронту», хлопцаў паклалі тварам на падлогу, а потым завезлі іх у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў.

Актывісты арганізацыі звязваюць затрыманне сваіх паплечнікаў з пачаткам акцыі «Горад наш», падчас якой на вуліцы Няміга быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг. На гэтым тыдні ў Беларусі адзначаўся Дзень дзяржаўнага сцяга і герба.

Сяргей Каваленка, актывіст КХП-БНФ, аднавіў галадоўку ў віцебскім следчым ізалятары. Ён асуджаны на 2 гады і месяц зняволення за парушэнне рэжыму адбыцця «хатняй хіміі», якую ён атрымаў за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднай ёлцы ў Віцебску. Алена Каваленка атрымала ліст ад свайго мужа Сяргея Каваленкі — першы ліст з віцебскага ізалятара, куды палітвязня змясцілі ў маі пасля псіхіятрычнай экспертызы ў Навінках. У лісце Сяргей напісаў, што аднавіў галадоўку. Пра яго стан здароўя нічога не вядома.

У судзе Ленінскага раёна Мінска пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы Івана Амельчанкі, аўтара плакату «Мусарок», з якім хлопец пазіраваў на «Чарнобыльскім шляху» побач з міліцыянтам у цывільным. Суддзя Міхаіл Хома спачатку адправіў пратакол на дапрацоўку, а потым даў 15 сутак. У судзе Іван заявіў, што насамрэч ён напісаў на плакаце па-англійску «My cop ok» (што значыць «мая міліцыя — добрая»). Адпаведна, ніякай непавагі да міліцыянта не выказваў, а плакат заклікаў супрацоўнікаў праваахоўных органаў прытрымлівацца закону.

Іван Амельчанка вырашыў самастойна прыйсці ў міліцыю, паколькі яго цягам апошніх тыдняў пастаянна спрабавалі выклікаць праз бацькоў для дачы тлумачэнняў па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года.

16 мая мінскага маладафронтаўца Міхася Мускага з ізалятара на Акрэсціна вывезлі ў вайсковую частку ў вёску Межыца (Віцебская вобласць). Дарогай хлопец здолеў патэлефанаваць сваім паплечнікам. Мускі адседзеў 15 сутак арышту пасля «Чарнобыльскага шляху», аднак не выйшаў на свабоду. Суд накінуў хлопцу яшчэ 5 сутак. Вечарам таго ж дня былі затрыманы і маладафронтаўцы Уладзімір Яроменак (7 сутак ад суддзі Фрунзенскага суда Людмілы Лапо ) і Павал Сяргей (5 сутак ад суддзі Наталлі Каробінай).

Таксама 16 мая быў затрыманы Раман Пратасевіч, які вывесіў бела-чырвона-белы сцяг на будынку ў цэнтры Мінска. Як паведамляе «Белорусский партизан», Рамана не маглі адправіць за краты, паколькі яму яшчэ няма 18 гадоў. Таму праз некалькі гадзінаў яго адпусцілі з пастарунку. Пратасевіч кажа, што падчас затрымання ён быў моцна збіты.

Цяпер у Беларусі, паводле ацэнак праваабаронцаў, трынаццаць палітзняволеных.

На наступным тыдні ў Брусэлі адбудзецца шосты штогадовы Фестываль дакументальных праваабарончых фільмаў «Адзін свет» (One World ). У панядзелак, 21 мая, у Еўрапарламенце ў рамках фестывалю пройдзе абмеркаванне бягучай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. У дыскусіі прымуць удзел праваабаронцы — Таццяна Равяка («Вясна»), Ліда Вацкова (каардынатар беларускіх праектаў арганізацыі «Чалавек у бядзе») і Саша Кулаева (кіраўнік аддзела краінаў Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі FIDH), паведамляе праваабарончы цэнтр «Вясна».

▸ РЭФЕРЭНДУМ

# ГАДАВІНА ГВАЛТУ З ГІСТАРЫЧНЫХ СІМВАЛАЎ

Генадзь КЕСНЕР

**Сямнаццаць гадоў таму, 14 мая 1995-га, у незалежнай Беларусі адбыўся першы рэферэндум, галоўным вынікам якога сталася змена дзяржаўнай сімволікі. Гістарычны бел-чырвона-белы сцяг змяніла крыху «мадэрнізаванае» палотнішча часоў БССР, а замест «Пагоні» ў якасці герба рэанімаваўся «вянок», таксама вельмі падобны на герб той жа Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

Змена дзяржаўных сімвалаў адбывалася патаемна і з выкарыстаннем… гвалту. Менавіта гвалтам можна назваць тое, што ўчыніла на даху будынку Адміністрацыі прэзідэнта купка дзеячаў на чале з сумнавядомым «заўгасам» Іванам Ціцянковым, які парваў спушчаны бел-чырвона-белы сцяг і разам з «калегамі» распісваўся на ашмётках нацыянальнага сімвала. Якім іншым словам, як не варварствам, можна назваць гэты «гераічны» ўчынак высокапастаўленых асобаў? На той момант нават не былі абвешчаны афіцыйныя вынікі «народнага волевыяўлення». Але чыноўнікі з затуманенымі ад адчування ўласнай сілы, беспакаранасці і ўсёмагутнасці мазгамі ў той момант забыліся, што менавіта пад гэтым сцягам прымаў прысягу іх непасрэдны і самы галоўны бос. Забыліся і пра тое, што пытанне пра змену нацыянальнай сімволікі, паводле Канстытуцыі, нельга было выносіць на плебісцыт.

Узгадваю той дзень, калі ўпершыню над будынкам Мінскага гарадскога савета дэпутатаў і Мінгарвыканкама на Плошчы Незалежнасці ўзняўся бел-чырвона-белы сцяг (адпаведнае рашэнне прынялі дэпутаты тагачаснага сталічнага Савета). Тады, у 1990 годзе, яшчэ не было незалежнай Рэспублікі Беларусь, яшчэ існаваў СССР. А над сталіцаю ўжо лунала бел-чырвона-белае палотнішча! Помню, як паглядзець на гэтае слаўнае відовішча з’язджаліся людзі не толькі з ускрайкаў Мінска, але і з усіх куткоў Беларусі.

Помню, як у 1991 годзе наш нацыянальны сімвал узняўся над Домам ураду цяпер ужо незалежнай Беларусі, а БССРаўскі герб замяніла «Пагоня». Якімі прыгожымі былі цэнтральныя вуліцы гарадоў падчас дзяржаўных святаў, калі іх аздаблялі тысячы і тысячы гістарычных сцягоў! Хіба мог хтосьці тады падумаць, што пройдзе ўсяго толькі некалькі гадоў, і за гэтыя прыгожыя сцягі апрычнікі «без цара ў галаве» пачнуць хапаць, збіваць і кідаць за краты ды судзіць людзей, для якіх гэтыя сцягі, як і выявы «Пагоні», сапраўды нешта ды значаць.

Вынікі таго майскага 1995 года плебісцыту выклікалі ў многіх шок і расчараванне. А ўжо на наступны дзень на ўсіх дзяржаўных будынках былі ўзняты цяперашнія дзяржаўныя сцягі. «Вершнік на коні» быў дэмантаваны з Дома ўрада такім жа чынам, як у 1944 годзе адтуль жа дэмантавалі фашысцкую свастыку. І замест радасці 1990 года ў многіх зашчымела ў сэрцы. Верылася, што гэта недарэчнасць, што гэта ненадоўга. Але…



# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 21 МАЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм АТН «Хоцімск» цыклу «Зямля беларуская».
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Дакументальны цыкл «Сваты. Жыццё без грыму» (Украіна).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**16.20** Прэм'ера. Меладрама «Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дзённік «Еўрабачання».
**21.55** Форум.
**22.55** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 1-я серыя.

**ОНТ**

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Раман «alla russa».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** «Першы клас».
**23.20** «Як прыручыць поспех».
**00.20** «Вячэрні Ургант».
**00.50** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Гоп-стоп «. Расія, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Бокс.
**00.35** «Пякельная кухня».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінаспробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**11.05** Школа рамонту.
**12.05** Бітва экстрасэнсаў.
**13.15** Прыгодніцкі фільм «Міс мядзведзіца» (Германія-Канада).
**15.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.50** Прэм'ера. Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія). 1-я серыя.
**16.50** Прэм'ера. Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.10** «Край З Міколам Пракаповічам». (Брэст).
**18.30** «Брэст і берасцейцы». (Брэст).
**18.40** «Небяспечная зона». (Брэст).
**18.50** Тэлегазета (Брэст).
**18.55** Фантастычная камедыя «Знаёмцеся, Дэйв» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.35** Авертайм.
**00.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія). 1-я серыя.

**РОССИЯ телеканал**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**12.25** «Ранішняя@пошта».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** Тэлесерыял «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Выспа непатрэбных людзей».
**22.15** Тэлесерыял «Правілы маскараду».
**23.10** Навіны - Беларусь.
**23.20** Прэм'ера. «Гарадок».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма максімум».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем».
**18.10** Цуд-людзі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Браты».
**21.20** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Сумленны панядзелак.
**00.20** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**EUROSPORT**

**23.00, 02.15, 09.30** Аўта і Мотаспарт: Мотаспартыўны часопіс.
**23.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 15-ы этап.
**00.30, 16.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. – 8-ы этап.
**01.45** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**09.45, 12.45** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Зальцбург.
**10.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**13.45** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Фінал.
**15.15** Усе віды спорту.
**15.30** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**17.00, 20.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 15-ы этап.
**18.00** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**19.30** Футбол.
**19.45** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**20.00** Тэніс.
**21.00** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.00, 23.30** Пра рэстлінг.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.10** Басанож па свеце.
**08.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.50** «На поўных абаротах», серыял: 1 і 2 серыі.
**09.35** «Чэшская мара», дак. фільм, 2004 г., Чэхія.
**11.00** Эксперт.
**11.30** Дакументальная гадзіна: «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**12.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**12.50** Басанож па свеце.
**13.15** «Чэшская мара», дак. фільм, 2004 г., Чэхія.
**14.40** «На поўных абаротах», серыял.
**15.25** Эксперт.
**15.55** Дакументальная гадзіна: «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.35** Вагон.
**17.40** Навігатар.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Зона «Свабоды».
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.30** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Кэндзі», маст. фільм, 2006 г., Аўстралія.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 22 МАЯ, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Мультфільмы.
**09.55** Арэна.
**10.20** Культурныя людзі.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дзённік «Еўрабачання».
**15.40** Мультфільм.
**15.50** Зона камфорту.
**16.20** Меладрама «Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.15** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Міжнародны конкурс песні «Еўрабачанне - 2012». Першы паўфінал. Прамая трансляцыя.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**01.20** Меладрама «Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 2-я серыя.

**ОНТ**

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «На ноч гледзячы».
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** Фільм «Гоп-стоп «. Расія, 2010 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Далёкія сваякі».
**14.55** Фільм «Прачнуўшыся ў Рына». ЗША, 2002 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойчая сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Авертайм.
**09.30** Цела чалавека.
**10.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**11.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.05** Вышэйшая мера.
**12.45** Фантастычная камедыя «Знаёмцеся, Дэйв» (ЗША).
**14.50** Альбарутэнія.
**15.20** Наперад у мінулае.
**15.50** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія). 2-я серыя.
**16.50** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Рамантычная камедыя «Проста неверагодная» (Германія-ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**23.35** Камедыйная меладрама «Мужчына ў мне» (Расія). 2-я серыя.

**РОССИЯ телеканал**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** Тэлесерыял «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Выспа непатрэбных людзей».
**22.15** Тэлесерыял «Правілы маскараду».
**23.10** Навіны - Беларусь.
**23.20** «Бітва за «Салют». Касмічны дэтэктыў».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцэйны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Цуд-людзі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Браты».
**21.20** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».

**EUROSPORT**

**23.30** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**00.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 15-ы этап.
**01.15** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**01.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**02.15, 14.00, 23.00** Тэніс.
**09.30** Футбол: Еўрагалы.
**09.45, 10.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**12.30** Усе віды спорту.
**12.45** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Фінал.
**14.15** Футбол: Еўрагалы.
**14.30, 20.00** Футбол.
**15.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 16-ы этап.
**18.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**23.15** Бокс: Міжнародны турнір.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**08.55** «Школа на санцапёку», серыял.
**09.25** Еўропа сёння.
**09.50** Навігатар.
**10.05** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.30** «Малая Міс Цыганія», дак. фільм, 2009 г., Харватыя.
**12.10** «Пекла. Неба», драма, 2005 г., Польшча.
**13.10** «Школа на санцапёку», серыял.
**13.35** Еўропа сёння.
**14.05** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.15** Навігатар.
**15.35** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 19 серыя.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт.
**18.40** «Лера Сом. Шлях», рэпартаж.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** На колах.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Бландзінка», серыял: 8 серыя.
**22.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 25 МАЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 8:00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія).
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Журналісцкае расследаванне. «Эфект натоўпу».
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Драматычны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае токшоў.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дзённік «Еўрабачання».
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія).
**23.05** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Містычны трылер «Званок» (ЗША-Японія).

### ОНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.10** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Жаночы доктар».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**23.25** Трылер «Сховішча».
**01.55-01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мiншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 2». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мiншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** 1/8 фіналу Першай лігі КВЗ.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** «Механічны апельсін».
**00.15** «Выклік на мільён даляраў».
**00.55** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Драматычны серыял « Вар'яты» (ЗША).
**10.45** Ясі і худзей.
**11.15** Школа рамонту.
**12.25** Вышэйшая мера.
**13.10** Страсці па культуры.
**14.10** Дэтэктыў «Гульня па-сур'ёзнаму» (Расія).
**16.15** Альбарутэнія.
**16.45** Жансавет.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Меладрама «Насуперак лёсу» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр (Брэст).
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Фактар сілы.
**23.55** Драма «Баліба» (Аўстралія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.25** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** Тэлесерыял «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Сваты». Працяг.
**22.25** Фільм «На ўсё жыццё» (2011 г.).
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** Фільм «4 таксісты і сабака» (2004 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Ліцейны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны фільм з цыклу «Марскія д'яблы. Лёсы-2».
**21.20** Дэтэктыў з цыклу «Следчы камітэт».
**23.00** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».
**00.40** Фантастычны трылер «Экзістэнцыя».

### EUROSPORT

**23.00** Баявыя мастацтвы.: Суперкомбат. Германія.
**00.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 18-ы этап.
**01.15** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**02.15** Тэніс.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.00** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**10.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**12.30** Тэніс Турнір WTA. Брусэль - 1/4 фіналу.
**14.15** Тэніс.
**14.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 19-ы этап.
**18.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**20.00** Конны спорт. Агляд тыдня.
**20.15** Тэніс Турнір WTA. Брусэль.
**21.45** Тэніс.
**23.00** Бокс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** Басаног па свеце (спазнаваўчая праграма).
**08.00** «На поўных абаротах», серыял: 1 і 2 серыі.
**08.45** Форум (ток-шоў).
**09.35** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 1 серыя.
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.55** «Доўгі шлях», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**11.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.00** «Д'яблавы хітрыкі», серыял, 2009 г., Чэхія 1 серыя.
**13.05** «На поўных абаротах», серыял: 1 і 2 серыі.
**13.50** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 1 серыя.
**14.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.45** «Доўгі шлях», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**15.25** «Катка», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**16.55** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 1 серыя.
**17.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Форум (ток-шоу).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Невядомая Беларусь: «Дзень «Ч». Версія», дакументальны фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.55** «Каралева аблокаў», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 26 МАЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Камедыйны серыял «Участак» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Лірычная камедыя «Службовы раман». 1-я серыя (СССР).
**14.00** Мультфільм «Маша і Мядзведзь».
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Мультфільм «У краіне невывучаных урокаў».
**15.50** Лірычная камедыя «Службовы раман». 2-я серыя (СССР).
**17.15** Дзённік «Еўрабачання».
**17.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Баявік «Вайна Логана: Звязаны гонарам» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дзённік «Еўрабачання».
**22.00** Міжнародны конкурс песні «Еўрабачанне - 2012». Фінал. Прамая трансляцыя.
**01.15** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Асяроддзе пасялення.
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.10** Прэм'ера. «Добры дзень, я ваш Калягін!».
**14.10** Фільм «Добры дзень, я ваша цётка!».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Табар сыходзіць у неба».
**18.05** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.50** «Я адкрыю сваё сэрца». Канцэрт Стаса Міхайлава.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жорсткія гульні».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**00.00** «Наша Белараша».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-13». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.40** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Горад Эмбер». ЗША, 2008г.
**12.45** «Прыгоды дылетанта».
**13.20** Фільм «Жаніх з Маямі». Расія, 1994 г.
**14.50** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Мая старэйшая сястра». Расія - Украіна, 2008 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Перагаворшчык». ЗША - Германія, 1998 г.
**22.45** Фільм «Гнеў жанчыны». ЗША, 2008г.
**00.20** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Дабравест.
**08.15** Мір вашай хаце.
**08.25** Дакументальна-пазнавальны фільм.
**10.05** Пра мастацтва.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.25** Наперад у мінулае.
**13.50** Беларуская кухня.
**14.35** Камедыйны дэтэктыў «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**17.15** «На шляху да Еўра-2012».
**18.00** Крымінальная камедыя «Праклён нефрытавага скарпіёна» (ЗША).
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.15** Драма «Ліхаманка суботняга вечара» (ЗША).
**00.25** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Якая ў вас усмешка».
**08.30** Мультфільм.
**08.45** Фільм «На ўсё жыццё» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Відавочнае-неверагоднае».
**12.25** Фільм «Грыбны дождж».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «ХА». Маленькія камедыі.
**14.45** Прэм'ера. «А ну-ка, бабулі! Ад Буранава да Баку».
**15.45** Фільм «Школьны вальс».
**17.30** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Павер, усё будзе добра.». 2012 г.
**22.40** Прэм'ера. Тэлесерыял «Байкі Міцяя».

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Акадэмія прыгажосці».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Кропка незвароту».
**14.15** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** Вочная стаўка.
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** Прафесія-рэпарцёр.
**19.55** «Праграма максімум».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** Ты не паверыш!
**22.55** Фільм «Двое».
**00.30** Вострасюжэтны фільм «Лекара выклікалі?».

### EUROSPORT

**00.00** Футбол: Моладзевы фэст да 21. Тулон - Групавы этап: Японія - Нідэрланды.
**01.15** Аўта і Матаспорт.
**01.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**02.15** Тэніс.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**10.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**12.30** Тэніс Турнір WTA. Брусэль.
**13.30** Тэніс.
**13.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 19-ы этап.
**14.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 20-ы этап.
**18.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**20.00** Тэніс Турнір WTA. Брусэль - Фінал.
**20.45** Тэніс Гейм, сэт і Матс.
**21.00** Футбол: Моладзевы фэст да 21. Тулон - Групавы этап: Францыя - Мексіка.
**23.45** Конны спорт.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**08.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Калыханка для самых маленькіх.
**09.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Катка», дакументальны фільм, 2010 г., Чэхія.
**11.40** Невядомая Беларусь: «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.15** Форум (ток-шоу).
**13.00** Калыханка для самых маленькіх.
**13.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.40** «Дэкалог, сем», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**14.35** «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**15.40** «Каралева аблокаў», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 27 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**19.20** «Нефарматны Курэйчык», рэпартаж.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.45** Суботні сеанс: «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**23.20** «Мент», дэтэктыўны серыял: 23 серыя.
**00.05** Аб'ектыў.

## 27 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.20** Існасць.
**06.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**06.55** Эксцэнтрычная меладрама «Формула кахання» (СССР).
**08.25** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН «На гістарычнай глебе Краснаполля» цыклу «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял «Участак» (Расія).
**10.55** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.25** Да цешчы на бліны.
**12.15** Медычныя таямніцы.
**12.40** Культурныя людзі.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.00** Час Саюза.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Эксцэнтрычная меладрама «Формула кахання» (СССР).
**17.25** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**18.55** Футурыстычны трылер «Я, робат» (ЗША-Германія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне. «Эфект натоўпу. Асноўны інстынкт».
**22.25** Трылер «Гульні розуму» (ЗША).
**00.45** Хакей для ўсіх.

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.15** Фільм «Жорсткі раманс».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Нядзельны «Ералаш».
**16.45** «Народная медыцына. Выпрабавана на сабе».
**17.45** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.15** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.55** «Yesterday Live».

### ТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.10** «Вялікі сняданак».
**10.50** Фільм «Перагаворшчык». ЗША - Германія, 1998 г.
**13.15** «Добры дзень, доктар».
**13.45** Фільм «Мая марачка». СССР, 1990 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Целаахоўнік». ЗША-Вялікабрытанія, 2010 г.
**22.35** «Пякельная кухня».
**23.55** Фільм «Адчужэнне». Турцыя, 2002 г.
**01.40** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Размова са святаром.
**08.20** Прыступкі Веры.
**08.35** Таямніца душы.
**09.05** Крымінальная камедыя «Праклён нефрытавага скарпіёна» (ЗША).
**10.50** Тэлебарометр.
**11.00** Школа рамонту.
**12.00** Вышэй за дах.
**12.35** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Бухта капітанаў.
**14.20** Прыгодніцкі музычны фільм «Пітэр Пэн» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.50** Кінаспробы.
**17.30** Канцэртная праграма (Расія).
**19.20** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай палітыкі» (Расія).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Спорт-кадр.
**22.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**23.00** Меладрама «Фантан» (ЗША).
**00.40** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** Мультфільм.
**07.10** Тэлесерыял «Байкі Міцяя».
**09.05** Фільм «Павер, усё будзе добра.» (2012 г.).
**11.00** Весткі.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама».
**12.30** Фільм «Казачая застава».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.00** Камедыя «Крок насустрач» (1975 г.).
**16.30** Прэм'ера. «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**17.30** Святочны канцэрт.
**19.15** Прэм'ера. «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весткі тыдня.
**21.05** Прэм'ера. Фільм «Сэрца без замка» (2012 г.).
**23.10** Фільм «Прысуд» (2008 г.).

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жаночы погляд».
**11.05** Дачны адказ.
**12.10** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**14.15** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.05** І зноў добры дзень!
**18.00** «Увага, вышук!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.55** «Іосіф Кабзон. Мая споведзь».
**23.00** «Нтвшнікі».
**00.00** Фільм «Гаспадар».

### EUROSPORT

**00.00** Конны спорт. Агляд тыдня.
**00.15** Футбол: Эўра-2012. Агляд.
**01.15** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**02.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 20-ы этап.
**02.45** Тэніс Гейм, сэт і Матс.
**09.30** Тэніс Гейм, сэт і Матс.
**09.45** Футбол: Эўра-2012. Агляд.
**10.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.
**12.00** Тэніс Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты Чэмпіянат Францыі - Дзень 1.
**16.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - Этап 21.
**18.30** Тэніс Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты Чэмпіянат Францыі - Дзень 1.
**22.00** Тэніс Гейм, сэт і Матс.
**22.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 27 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Сальда (эканамічная праграма).
**10.30** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**11.40** Калыханка для самых маленькіх.
**12.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.40** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.05** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.45** МакраФон: «Рок карона–2008»: Канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкой».
**14.15** «Праблема з камарамі ды іншыя гісторыі», дак. фільм, 2007 г., Балгарыя.
**15.20** «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «На поўных абаротах», серыял: 1 і 2 серыі.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.30** Калыханка для самых маленькіх.
**19.40** «Кароль Уга», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Дзяўчо з перлавай завушніцай», маст. фільм, 2004 г., Вялікабрытанія–Люксембург.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

# ПРАБЛЕМЫ СЛАВАЦКІХ ЦЫГАНОЎ

Вольга ХВОІН

**«Выдзеліць тэрыторыю ў Еўропе для іх дзяржавы. Тады будзе легальная магчымасць абвясціць вайну». «Ромы патрэбныя, каб мы маглі пачувацца лепшымі, чым ёсць насамрэч», — гэтыя выказванні пра цыганоў мне давялося пачуць у Браціславе.**



Фота аўтара

Эмілія Чаганова, дырэктар школы ў пасёлку Плавецкі Штвырток

Цыганскае пытанне для Славакіі вострае. Паводле ацэнак экспертаў, цыгане складаюць каля 7 працэнтаў насельніцтва краіны (блізу 350 тысяч чалавек). Большасць з іх сацыяльна не інтэграваныя, маюць праблемы з адукацыяй, працай. Цыганамі займаюцца і дзяржаўныя ўстановы, і грамадскія арганізацыі. Але ніхто не можа сказаць, калі праблемы ромаў будуць вырашаныя.

## Замкнёныя дзверы

На ўзбочыне пасёлка Плавецкі Штвртоk, што ў 30 кіламетрах ад Браціславы, за акуратнымі дамкамі славакаў стварыўся стыхійны сметнік, побач з ім — нелегальная паселішча цыганоў. «Мы туды не паедзем, — гаворыць гід і перакладчык Павал. — Гэта небяспечна. Нам варта было б узяць у суправаджэнне паліцыю». Едзем да вясковай школы, дзе вучацца цыганскія дзеці з таго самага таямнічага паселішча. Дзверы навучальнай установы замкнёныя знутры. Праз колькі хвілін нас сустракае дырэктарка школы Эмілія Чаганова.

У пасёлку 2360 жыхароў, з іх 650 цыгане (гэта каля 28%). Колькі гадоў таму цыгане самавольна пачалі будаваць свае дамкі на ўскраіне вёскі. Пад паселішчам знаходзяцца газавыя камунікацыі, што, натуральна, стварае пагрозу выбуху. З прычыны нелегальнага захопу зямлі мясцовыя ўлады адмаўляюцца будаваць на тэрыторыі паселішча якія-небудзь камунікацыі.

У вёсцы ёсць адмысловая камісія, што займаецца цыганскай праблематыкай. Эмілія Чаганова — сябра гэтай камісіі. «Апошнія два гады мы шукаем спосаб, як гэтыя нелегальныя будынкі знесці ды знайсці цыганам новае месца жыхарства. Гэта цяжкая праблема, але ўрэшце яе важна вырашыць, бо гэта ж пытанне бяспекі», — распавядае дырэктарка школы. Ёсць і крадзяжы, і канфлікты з мясцовымі жыхарамі.

Школа ў пасёлку была змяшанай, то бок вучыліся разам дзеці і славакаў, і цыганоў. Але потым славакі пачалі забіраць сваіх дзяцей ды вазіць іх вучыцца ў іншыя вёскі ці ў Браціславу. Цяпер са 136 вучняў 120 — цыганы.

«Бацькі маюць права выбіраць школу для дзяцей, закон дазваляе, і, на маю думку, можна гаварыць пра сегрэгацыю. А наша школа добра забяспечаная матэрыяльна, працуюць высокакваліфікаваныя настаўнікі, ёсць тэхніка, спартыўныя залі, стадыён. Я думаю, што многія з нашых славацкіх дзяцей ходзяць у горшыя школы. Але бацькі баяцца, што цыганскія дзеці будуць крыўдзіць больш слабых, — тлумачыць сітуацыю спадарыня Эмілія. — Праблема ў тым, што бацькі ромскіх дзяцей не цікавяцца іх адукацыяй, узровень падрыхтоўкі дзяцей у нас у выніку ніжэйшы, чым у іншых школах. Цыгане аддаюць дзяцей у школу з меркантыльных прычынаў. Калі дзеці не ходзяць у школу, то ім не даюць сацыяльную дапамогу. І многія прысутнічаюць тут толькі фізічна. Моцнай матывацыяй для дзяцей з асацыяльных сямей ёсць бясплатныя абеды, кнігі, сшыткі, алоўкі».

Паспяховасць навучэнцаў вельмі нізкая, многія застаюцца на другі год. У вышэйшую школу ідуць адзінкі. Аднак ёсць выпадак, калі дзяўчынка, выпускніца школы, атрымала вышэйшую адукацыю ў галіне мас-медыя камунікацый, ёсць хлопец, які вывучае хімію ва ўніверсітэце. Дырэктарка гаворыць пра іх з гонарам, як пра надзвычайныя педагагічныя поспехі.

Паводле назіранняў спадарыні Эміліі, гэты бядотны стан адукаванасці цыганскіх дзяцей ёсць вынікам абыякавасці сем'яў. Бацькі не зацікаўленыя ў адукацыі дзяцей, бо пасля школы, калі малады чалавек захоча вучыцца далей, трэба будзе на яго выдаткоўваць грошы. У Славакіі ёсць недзяржаўныя арганізацыі, якія дапамагаюць такім дзецям, каб яны маглі скончыць сярэднюю школу.

У Славакіі не абавязкова вадзіць дзіця ў садок, адпаведна, цыганскія дзеці туды дарогі і не ведаюць. І ў Плавецкім Штвртоку былі вымушаныя стварыць нулявы клас, бо дзеці папросту не маюць сацыяльных навыкаў, не ведаюць правілаў асабістай гігіены. Адаптуюць цыганскіх дзяцей да соцыуму ў супрацы са школьным псіхолагам.

З чаго жывуць мясцовыя цыгане? Многія не працуюць, але атрымліваюць на дзяцей сацыяльную дапамогу. Часам збіраюць і прадаюць грыбы, лекавыя расліны, металалом, могуць нелегальна падпрацоўваць на будоўлях ці ў прыватных гаспадарках. «Дзеці ў школе здзяйсняюць дробныя крадзяжы, для іх нармальна спыніць старога чалавека і загадаць: «Аддавай грошы!», — расказвае дырэктарка школы. — У нас ёсць царкоўна-грамадская абшчына маладых людзей, якія робяць праграмы па інтэграцыі цыганоў. Некаторыя дапамагаюць дзецям рабіць хатнія заданні. Для іх вялікай матывацыяй ёсць падарункі, бясплатныя экскурсіі».

«Фактычна ніхто з бацькоў цыганскіх дзяцей не працуе, у дзяцей няма пазітыўнага прыкладу», — выказвае свае думкі дырэктарка школы. Прапаноўвае варыянт рассяляць цыганоў, каб яны не жылі кампактна табарам, а былі вымушаныя інтэгравацца. — У гэтым пасяленні ёсць свае законы, і ты можаш нават не быць з імі згодны, але мусіш жыць як усе. І ў дзяцей няма шанцу, перспектывы жыць іншым ладам».

Эмілія Чаганова ладзіць невялічкую экскурсію па школе. Усе кабінеты замкнёныя на ключ, у тым ліку і ў класах, дзе ідуць заняткі з вучнямі. У адным з кабінетаў занятак вядзе жанчына ва ўбранні сястры міласэрнасці. Гэтая настаўніца раней ездзіла працаваць у Афрыку. Яна распавяла, што там дзеці былі галодныя, худыя і вельмі прагныя да ведаў. Цыганскія ж дзеці сытыя і больш-менш дагледжаныя, але навука ім не патрэбная.

## Як цыгану стаць «белым»?

«Цыгане патрэбныя славакам, каб на іх тле выглядаць больш прывабна», — гаворыць Марэк Гойсік, дырэктар Фонду сацыяльнага развіцця Міністэрства працы.

Марэк Гойсік распавядае, што левацэнтрысцкая партыя «Курс — сацыяльная дэмакратыя», якая цяпер прыйшла да ўлады, мае кансерватыўны погляд на этнічныя пытанні. Славацкая нацыянальная партыя ўвогуле ў часе выбарчай кампаніі рабіла дыскрымінуючыя плакаты з выявамі асацыяльных дзябёлых цыганоў у брудных майках з татухамі і лозунгамі кшталту «Вам не надакучыла за іх плаціць?».

Большасць палітыкаў да цыганскай праблемы ставяцца абыякава. Маўляў, гэта іх праблемы, і тое, як жывуць цыгане, ёсць ім справядлівай карай. Правыя партыі трымаюцца думкі, што цыганам трэба зменшыць сацыяльную падтрымку.

«Многія людзі не бачаць магчымасцяў для зменаў гэтай сітуацыі, ніхто не верыць у тое, што сацыяльнай падтрымкай можна нечага дамагчыся», — распавядае пра стаўленне палітыкаў і абывацеляў да цыганскага пытання прадстаўнік Міністэрства працы. — Калі нехта будзе на вуліцы размаўляць па-венгерску ці па-цыганску, то да яго негатыўнае стаўленне. Славакія — даволі расісцкая краіна. Гэта ж тычыцца і адносінаў да цемнаскурых. У маёй сяброўкі быў цемнаскуры хлопец з Рыму. Яго папярэджвалі, калі ён ехаў у Славакію, што гэтая краіна не дружалюбная да людзей яго расы. На хлопца сапраўды тут напалі. Ведаеце, многія славацкія цыгане, якія з'язджаюць у Англію, там дасягаюць поспеху ў сацыяльнай інтэграцыі. Мой сябра-цыган прыгадваў, што з часам у Англіі пачаў пачувацца нармальным белым чалавекам. «Чорнымі» ў Брытаніі лічацца пакістанцы, там яны займаюць прыкладна тую ж нішу, што ў Славакіі цыгане».

Да ведама, у славацкай мове ёсць слова «цыганіць», што значыць падманваць. І цыганоў тут усе называюць ромамі, гэта быццам бы дазваляе пазбягаць дыскрымінацыю.

Спадар Марэк распавядае, што, калі прыйшоў працаваць у міністэрства, то запрасіў працаваць чатырох цыганоў. Дык славакам было складана прызвычаіцца, што ў іх начальнікі-цыгане, «але нічога, з часам прывыклі». Ён мяркуе, што вырашыць праблему непрыняцця ромаў соцыумам дапамаглі б некаторыя крокі. Найперш трэба адмяніць спецыяльныя школы для цыганоў, сачыць за тым, каб Закон па антыдыскрымінацыі працаваў і выконваўся.



## Вельмі проста знайсці сабе ворага

Жыццё славацкіх цыганоў было найбольш камфортным у часы камунізму, бо існавала палітыка занятасці. Цяпер цыгане «згубіліся», ім трэба шукаць працу, але як і дзе гэта рабіць, яны не ведаюць. «У цяперашняй сістэме вельмі проста знайсці сабе ворага, і на ролю гэтых ворагаў прызначылі цыганоў. Калі вы пойдзеце ў карчму ва Усходняй Славакіі а 10-й раніцы, то пабачыце там многа мужыкоў, што п'юць гарэлку і скардзяцца на цыганоў, якія не працуюць. Калі вы будзеце размаўляць з галандскім менеджарам, то ён скажа вам, што славакі — лянівыя рабочыя, яны п'юць, крадуць. Але ва ўсіх грахах абвінавачваюць цыганоў»,— падводзіць рысу пад славацкім этнічным канфліктам Марэк Гойсік.

Падобна апісвае сітуацыю з цыганскай меншасцю Лаца Аравец, які працуе ў Фондзе Мілана Шымечкі. Фонд займаецца нацменшасцямі, у тым ліку і цыганскай.

«Галоўныя праблемы цыганоў — беднасць і расізм», — гаворыць Лаца Аравец. Ён пагаджаецца, што ў цыганоў мала матывацыі да сацыяльнага росту, развіцця. Але тлумачыць гэта тым, што бедныя людзі, якія жывуць на ўзбочыне грамадства, дзяржавы маюць іншыя патрэбы, перавагі. «Калі мы сустрэнемся з інтэграванымі ромамі, то пабачым, што ў іх каштоўнасці такія ж, як і ў іншых людзей», — падкрэслівае прадстаўнік Фонду Мілана Шымечкі.

Лаца Аравец распавядае, што для славацкіх палітыкаў ромскае пытанне непапулярнае. «Складана знайсці палітыка, які б цікавіўся ромамі. Калі вы станеце займацца гэтым пытаннем, то папросту не будзеце абраныя ў органы кіравання. Дзяржаўныя структуры перакідваюць гэта пытанне адна адной. Цыгане да палітыкі таксама абыякавыя. Але былі выпадкі, калі ў дзень выбараў прадстаўнікі партый прыязджалі ў ромскія асады і за пяць еўра купілялі галасы», — апісвае замкнёнае кола ромскіх праблем прадстаўнік Фонду Мілана Шымечкі.

***

Цыганы жывуць у асноўным на ўсходзе краіны. Самая высокая канцэнтрацыя цыганоў каля горада Кежмарок. На ўсходзе краіны цыганы жывуць цэлымі вёскамі — асадамі, у маленькіх гарадках у іх свае кварталы.

Славацкія цыгане ў асноўным не вандроўныя, за выключэннем «валашскіх» цыган, якія прыйшлі з Румыніі. «Мясцовыя» (90%) лічаць «валашскіх» (10%) адмарозкамі і прыдуркамі, а тыя ўспрымаюць «мясцовых» несапраўднымі цыганамі. З-за гэтага рэгулярна ўспыхваюць разборкі.

**Аўтар выказвае падзяку грамадскаму аб'яднанню «Чалавек у бядзе» і Міністэрству замежных спраў Славакіі за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.**

▸ САЛІДАРНАСЦЬ

# АНЛАЙН-ХАРТЫСТЫ

Алег НОВІКАЎ

**У красавіку амерыканскі ўплывовы часопіс «Time» змясціў свой варыянт ста самых уплывовых людзей на планеце. Агульную ўвагу выклікала тое, што сярод «уплывовых» аказаўся Бэн Рэтрэй, стваральнік сайта Change.org, які жадае змяніць свет анлайн-петыцыямі.**


Бэн Рэтрэй

Сайт Change.org узнік у 2007 годзе. На той час яго стваральніку быў 31 год. Галоўная задача праекту палягала ў тым, каб спрыяць «сацыяльным зменам». Прынцып працы Change.org вельмі просты — асоба або арганізацыя выкладае тэкст петыцыі і прапануе карыстальнікам падтрымаць сваю пазіцыю. Грошы за гэта не бяруць, аднак арганізацыі, якія вядуць кампаніі сур'ёзна, накшталт «Amnesty International», гатовыя аплачваць свае хосты.

Як не дзіўна, такая прымітыўная формула спрацавала. Пра гэта сведчыць не толькі з'яўленне Бэна ў ганаровым спісе ста самых уплывовых зямлян, аднак і голая статыстыка. На цяперашні дзень гэта самая буйная інтэрнэт-платформа сацыяльнай актыўнасці ў свеце. Колькасць зарэгістраваных на сайце людзей перавышае 12 мільёнаў чалавек. Цяперашні штат супрацоўнікаў Change.org складае ўжо больш за сто чалавек. У планах Рэтрэя бліжэйшым часам адкрыць філіялы ў 20 краінах. Плюс стварыць кітайскую і арабскую моўныя версіі.

Аднак лепшым знакам росту ўплыву Change.org ёсць рэакцыя ўрадаў розных адміністрацый, карпарацый, якія, як правіла, з'яўляюцца адрасатамі петыцый. Так, у 2011 годзе сайт атакавалі хакеры, нанятыя ўладамі КНР, якіх былі ўражаныя маштабамі петыцыйнай кампаніяй за вызваленне дысідэнта Ай Вэйвэя.

Нельга сказаць, што ўлады ігнаруюць патрабаванні. Так, яны былі вымушаны рэагаваць на змешчаную на Change.org петыцыю бацькоў 17-гадовага Трэйвана Марціна з Фларыды, забітага ў лютым («Новы Час» пісаў пра гэту справу). Пасля трагедыі забойцу адпусцілі, што выклікала шквал крытыкі. На сайце пад патрабаваннем арыштаваць і асудзіць злачынцу падпісалася 2,2 мільёна чалавек (гэта пакуль абсалютны рэкорд колькасці подпісантаў на Change.org). У выніку ўлады Фларыды зноў затрымалі забойцу і адправілі яго да суда пад турэмны арышт.

Натуральна, хапае ў Change.org і крытыкаў. Крытэрыі для рэгістрацыі ў якасці падпісанта самыя прымітыўныя. Дастаткова падчас рэгістрацыі ўказаць нейкае імя і электроны адрас, праўдзівасць якога на самай справе цяжка праверыць. Адсюль скепсіс да колькасці пададзеных галасоў за тую ці іншую прапанову.

З іншага боку, лёгкая мадэль уключэння ў сацыяльную дзейнасць, якую прапануе Change.org, дазваляе людзям ахвотней выказваць сваю грамадскую пазіцыю. Нядзіўна, што анлайн-петыцый становіцца з кожным днём усё больш. Як тут не згадаць, што рух за дэмакратызацыю выбарчай сістэмы ў Англіі ў XIX стагоддзі пачаўся з руху падаўцаў петыцый, або так званых хартый.

На Change.org не так шмат палітычных петыцый. Галоўны блок зваротаў — побытавыя праблемы: абарона прыроды, гендэрная роўнасць, экалагічнасць прадуктаў, годнасць слабых.

На першым месцы прырода. Якіх петыцый тут толькі няма! Петыцыя супраць таго, каб вайскоўцы выкарыстоўвалі горных казлоў у якасці мішэняў падчас вучэнняў (65 тысяч подпісаў), тэкст супраць таго, каб цяжарных свіней з кампаніі Domino, якая робіць піцы, трымалі ў малых клетках (113 тысяч подпісаў), заклік да парталу Yahoo не прадаваць праз інтэрнэт мяса дэльфінаў і кітоў (93 тысячы подпісаў). Нарэшце, патрабаванне да Кангрэсу ЗША абавязаць фермераў гарантаваць курам, якія нясуць яйкі, спецыяльны памер плошчы.

На другім месцы праблема здароўя. Нельга прайсці міма петыцыі супраць часопіса «Seventeen Magazine» (англ.: часопіс для 17-гадовых). На думку петыцыяністаў, «Seventeen Magazine» навязвае маладым дзяўчаткам стандарты пра вагу і фігуру. «Шмат дзяўчынак не ведаюць, што «сімпатычныя жанчыны», якіх мы бачым у часопісах, — гэта фальшыўка. Іх выявы рэтушуюцца, каб яны выглядалі больш вытанчанымі, каб у іх была больш прыгожая скура. Патрэбна прыпыніць дзейнасць жаночых часопісаў, якія робяць дзяўчатам балюча і крыўдзяць іх пачуццё асабістай годнасці», — піша аўтарка петыцыі. На цяперашні момант зачыніць «Seventeen Magazine» патрабуюць каля 70 тысяч чалавек.

А вось адна маці сабрала 77 тысяч подпісаў за тое, каб фірма «Tide» перастала дадаваць у пральныя парашкі нейкі элемент, які, па словах ініцыятара кампаніі, выклікае хваробу на рак. 233 тысячы подпісаў сабраў нехта Грэгары Мілер, які пратэстуе супраць таго, каб для кантролю хворых на аўтызм у адным са шпіталяў ЗША ўжываліся электрашокеры. А вось нехта Жан Бінгхам ужо святкуе перамогу. 34 тысяч сабраных подпісаў пераканалі кампанію Mattel, Inc пачаць вытворчасць лысых цацак Барбі. Такія Барбі будуць рабіцца спецыяльна для дзетак, якія страцілі валасы з-за хваробы на рак.

Як і трэба было чакаць, маса петыцый з заклікам аднавіць справядлівасць. Так, нельга без эмоцый чытаць гісторыю былога лідара бой-скаўтаў са штата Агайо. Яго выгналі з шэрагаў выхавацеляў дзяцей за тое, што ён аказаўся геем. Хлопец апісвае, як ён сапраўды любіць дзяцей, як доўга хадзіў па бюракратычных эшалонах у пошуках праўды, пакуль нарэшце зразумеў: вярнуцца на любімую працу ён можа толькі дзякуючы Change.org. За гея-педагога падпісалася 277 тысяч чалавек. Такіх гісторый шмат. Так, 8000 тысяч подпісаў сабрана за хлопца з сіндромам Даўна з Паўночнай Каралiны. Ён хоча гуляць у амерыканскі футбол, а яму не дазваляюць.

У раздзеле «Сацыяльныя правы» шмат невясёлых гісторый пра тое, як кагосьці пазбавілі дома, выкінулі з працы або загналі ў банкаўскую кабалу. Тут вельмі актыўныя прафсаюзы, якія з дапамогай петыцый ціснуць на працадаўцу. Часам людзі сапраўды перамагаюць. У 2001 годзе 300 тысяч падпісантаў дабіліся, каб Bank of America скараціў памер камісіі за банкаўскія паслугі. Хаця, магчыма, банкіры прыслухаліся да голасу народу, бо петыцыю таксама падпісаў Барак Абама.

Хаця на сайце Change.org ёсць рубрыка «Адукацыя», па сутнасці яна працягвае тэму сацыяльных правоў. Шмат студэнтаў выкарыстоўваюць партал, змагаючыся супраць высокіх тарыфаў на вучобу. Дарэчы, у 2012 годзе Універсітэт штату Арызона вырашыў нават заблакаваць доступ да сайту з-за таго, што на Change.org мясцовыя студэнты сабралі вельмі шмат подпісаў супраць павышэння коштаў. Хаця ёсць тут і петыцыі, якія непасрэдна тычацца адукацыі. Так, студэнты штату Луізіана, з якімі салідарныя 75 тысяч чалавек, патрабуюць ад улады штату нарэшце ўключыць у спіс прадметаў для вывучэння тэорыю Дарвіна.

Прыглядаючы Change.org, нельга не адзначыць, што большасць анлайн-петыцый звязаныя з праблемамі ЗША. Аднак тое, у якой прагрэсіі расце колькасць зваротаў, і той факт, што ўлады сапраўды пачынаюць рэагаваць на феномен Change.org, не выклікае сумневаў — хутка гэта ініцыятыва будзе папулярная і ў нас. Пытанне толькі, наколькі развіты маральны кодэкс у нашых чыноўнікаў і бізнэсмэнаў, каб не ігнараваць анлайн-петыцыі.

Аднак і цяпер Беларусь не згубілася на Change.org. Адна з самых папулярных петыцый на партале зараз — заклік да Міжнароднай федэрацыі хакею адмяніць чэмпіянат свету ў Мінску ў 2014 годзе. За гэта ўжо выказаліся каля 7 тысяч чалавек. Раней 64 тысячы чалавек падтрымалі заклік Любові Кавалёвай да Лукашэнкі, каб той не забіваў яе сына.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Што да нашых найбліжэйшых суседзяў, то Аляксандр Лукашэнка сваёй істэрычнай палітыкай загнаў сябе ў пастку, і перспектывы беларускай эканомікі можна ацаніць як «падзенне ў Расію без парашуту». Пытанне ў хуткасці гэтага падзення.

**«Московские новости» (Расія)**

Па словах Гары Каспарава, для прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна важны кожны дыктатар, які захаваўся. Гэта, адзначыў Каспараў, свайго роду маральная падтрымка. «І з улікам тых тэндэнцый, якія вызначыліся пасля «арабскай вясны», любая пагроза дыктатуры ў блізкім замежжы ўспрымаецца Пуціным як пагроза яму. Відавочна, што пры Лукашэнку ў Беларусі ніколі не будзе нічога, нават падобнага на дэмакратыю. Пуціна гэта задавальняе», — сказаў Каспараў. Каспараў падкрэсліў, што Лукашэнка і Пуцін жадаюць застацца ва ўладзе любой цаной. Паводле яго меркавання, змены ў Расіі неадкладна прывядуць да зменаў у Беларусі. Не выключана, што магчыма і адваротнае. «Я думаю, што на сённяшнім этапе пуцінскі і лукашэнкаўскі рэжымы ўжо павязаныя. Відавочна, наколькі магутней Пуцін, настолькі Лукашэнка залежны ад Пуціна», — заявіў палітык.

**«Главред» (Украіна)**

Вядома, што на восень бягучага года пасля парламенцкіх выбараў прызначана правядзенне з'езду «Белай Русі», дзе мяркуецца заявіць пра стварэнне прэзідэнцкай партыі. З фармальнага пункта гледжання зрабіць гэта няцяжка. Але вось пытанне: ці здольная «Белая Русь» стаць дзеяздольнай арганізацыяй, чаго дагэтуль не здарылася, нягледзячы на ўсе наяўныя ў яе матэрыяльныя ўмовы і адміністрацыйныя рэсурсы? Галоўная праблема «Белай Русі» палягае ў адсутнасці ў цяперашніх праважадных арганізацыі ініцыятывы і мінімальнага творчага падыходу. Адсюль і адсутнасць эфектыўнай працы. Здавалася б, арганізацыю ўзначальвае адзін з вышэйшых чыноўнікаў Рэспублікі Беларусь, а яна практычна не прыкметная ў вачах грамадства.

**«Материк» (Расія)**

Усё гэта кладзецца ў логіку будучай сяброўскай сустрэчы Пуціна з Лукашэнкам: дзяржавы-ізгоі — гэта наш шлях, і мы з яго не збочым. Дзіўна, што нацлідар не рвануў адразу да Уга Чавеса.

**«Газета.ру» (Расія)**

Беларусь у гандлёвых адносінах — больш маштабны партнёр, чым уся Балтыя разам узятая. У мінулым годзе мы экспартавалі ў Беларусь без малога на 2 мільярда долараў ЗША, а вывезлі адтуль больш чатырох мільярдаў долараў. І... Уласна, гэта ўсё. Калі Ючшанка па нейкіх сваіх складаных вытлумачальных чынніках выступаў адвакатам Лукашэнкі перад Еўропай, то Януковіч не запрасіў Бацьку на 25-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы, што абярнулася маленькай катастрофай у адносінах паміж двума прэзідэнтамі: Лукашэнка заявіў, што «вывасці хапае ва ўкраінскага кіраўніцтва». У адказ ён пачуў абвінавачванні ў «недобрасуседстве». Так што палітычныя адносіны паміж краінамі сёння вельмі млявыя і ажыўляюцца хіба што гандлёвымі войнамі — так, нядаўна Украіна забараніла ўвоз беларускага мяса і малака.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Праблема партыйнага будаўніцтва ў рэспубліцы застаецца адной з самых вострых палітычных праблем, бо відавочна, што яны ў гэтым сэнсе адсталі ад нашых партнёраў па Еўразійскім саюзе вельмі сур'ёзна — ад Расіі гадоў на дваццаць, ад Казахстана — гадоў на дзесяць. І калі сітуацыя ў плане фармавання Еўразійскага саюза да 2015–2018 года падыдзе да свайго лагічнага завяршэння — фармавання Еўразійскага парламента і выбараў дэлегатаў, то вельмі дзіўна ў ім будуць глядзецца дэпутаты ад рэспублікі, абраныя не па партыйных спісах.

**«REGNUM» (Расія)**

ПАЛІТЫКА

# ПЕРШЫЯ ЛЭДЗІ ФРАНЦЫІ

Алег НОВІКАЎ



**Прыход сацыяліста Франсуа Аланда, які называе сябе нармальным французам, у Елісейскі Палац значыць, што ў Францыі будзе не зусім звычайная першая лэдзі.**

Нават калі б Валеры Трырвейлер (нарадзілася ў 1965 годзе) — жонка Франсуа Аланда, заусёды маўчала і паводзіла сябе адпаведна пратаколу, усё роўна без скандалаў не абышлося б. Так здарылася, што яна адзіная ў французскай гісторыі першая лэдзі, якая фармальна не з'яўляецца жонкай прэзідэнта. Валеры і Франсуа жывуць у грамадзянскім шлюбе. Адсюль вялікі хаос у офісе французскага МЗС. Прынамсі за тыдзень да саміту «Вялікай васьмёркі» ў ЗША, куды запрошаны Аланд, дыпламаты яшчэ ламалі галаву, у якім статусе туды паедзе Валеры. Дасюль дыпламатычны лексікон ведае толькі адну катэгорыю для спадарожніц — «жонка».

Часткова сітуацыю выратоўвае тое, што па сутнасці французы дасюль не ведаюць, як дакладна трэба называць сваю першую лэдзі. Традыцыйна ў Францыі не любяць рабіць кальку з замежных слоў, а «першая дама» — прамы пераклад з англійскай мовы «first lady». З самага пачатку існавання V Рэспублікі, калі роля жонкі прэзідэнта стала заўважнай у палітычным жыцці, сярод філолагаў цягнецца канфлікт наконт французскай версіі гэтага панятку. Прапаноўвалася шмат варыянтаў — і «першая грамадзянка», і нават «прэзідэнтша», аднак кампрамісу няма. Даводзіцца абыходзіцца выразам «першая дама».

Па вялікаму рахунку, гэта цалкам справядліва, бо менавіта дзякуючы амерыканцам французы перагледзелі функцыі жонкі прэзідэнта. Хаця інстытут прэзідэнта існуе тут з 1848 года, жонкі прэзідэнтаў сталі адыгрываць важную ролю толькі пасля феномену Жаклін Кенэдзі — другой паловы прэзідэнта Джона Кенэдзі. Жаклін змяніла ролю жанчыны ў палітыцы. Яна давала інтэрв'ю і пазіравала для фатографаў, трымаючы пры гэтым дыстанцыю паміж журналістамі і сваёй сям'ёй. Пачуццё стылю і элегантнасць прынеслі ёй папулярнасць як сярод дыпламатаў, так і сярод простых амерыканцаў, і нават геапалітычных праціўнікаў.

У выніку Жаклін так зачаравала ўвесь свет, што французскім прэзідэнтам нічога не заставалася, як рабіць са сваіх жонак публічных фігур.

Праўда, раней у Францыі было адно выключэнне. Гэта Мішэль Арыоль, жонка прэзідэнта Венсана Арыоля. Нягледзячы на тое, што Мішэль была дачкой прафсаюзнага лідара, перабраўшыся ў Елісейскі палац, яна падчас прэзідэнцкай кадэнцыі свайго мужа з 1947 па 1954 гады не знікала з вокладак жаночых часопісаў.

Але першай жанчынай, якая напоўніцу цягнула лямку першай дамы, была Івона дэ Голь (1900–1979). Увогуле, Івона была супраць таго, каб яе муж пасля вайны вярнуўся ў вялікую палітыку. Калі стала вядома, што Шарля абралі прэзідэнтам, яна ўздыхнула і сказала: «Зноў давядзецца жыць сярод мэблі». Мадам дэ Голь, якую французы празвалі Цётка Івона, засталася ў калектыўнай памяці хадзячым бастыёнам сямейнай і каталіцкай маралі.

Пераемніцай Івоны пасля адстаўкі дэ Голя стала Клод Пампіду (1912–2007). Адпаведна легендзе, яна пагадзілася выйсці за Жоржа Пампіду пасля таго, як ён (на той момант малады выкладчык французскай мовы) прачытаў паэму ў яе гонар. Інтарэс да творчасці быў не выпадковым. Клод пасля прапіскі ў Елісейскім палацы змяніла ўнутраны дызайн і павесіла на яго сценах абстрактны жывапіс. Аднак месца ў гісторыі яна займае дзякуючы справе Марковіча. Стэфан Марковіч — целахоўнік Алена Дэлона, займаўся арганізацыяй элітных зачыненых вечарынак, якія часта заканчваліся групавым сэксам. Па чутках, абанемент на тыя вечарынкі мела і Клод. І быццам менавіта таму Жорж Пампіду напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі 1969 года «прыбраў» Марковіча — уладальніка кампрамату. Справа дасюль не раскрытая, паколькі галоўны падазраваны — нейкі гангстэр — быў таямніча забіты.

Наступным прэзідэнтам стаў Валеры Жыскар д'Эстэн. На маці Жыскар д'Эстэн — нашчадак Людовіка XV. Таксама мела каралеўскую кроў Бурбонаў яго жонка Ганна (яна — дачка герцага і княжны). На пасадзе першай лэдзі яна правіла сябе варта. У 1979 годзе муж нават даверыў ёй прадстаўляць сябе на ўрачыстасцях, якія арганізаваў Ян Павел II з нагоды свайго абрання на святы пасад. Праўда, простая публіка Ганну не вельмі любіла за яе арыстакратычны шык і называла «наша Марыя-Антуанета».

Прыхільнікі рэспубліканскага прынцыпу «эгалітэ», што значыць «роўнасць», атрымалі сатысфакцыю ў часы прэзідэнцтва Франсуа Мітэрана. Яго жонка Даніэла (1924–2011) увасабляла сабой французскую левую традыцыю. Яна пазнаёмілася з Мітэранам у часы акупацыі па заданню кіраўніцтва партызанскага падполля. Адпаведна загаду, яна павінна была выконваць ролю нявесты маладога чалавека, каб той не трапіў пад падазрэнне Гестапа. Як толькі заданне закончылася, Даніэла і Франсуа вырашылі пабрацца шлюбам. Сваіх левых поглядаў Даніэла не пакінула. Яна ўвесь час выказвала сімпатыі да левай партызанкі ў Лацінскай Амерыцы, а з Фідэля Кастра папросту зрабіла ікону. Гэта не вельмі адпавядала лініі міжнароднай палітыкі Францыі, што часта ставіла Мітэрана ў не вельмі зручнае становішча. Таксама, як і публічная крытыка Даніэлы на адрас правых, якія з сярэдзіны 1980-х гадоў фармавалі французскі ўрад. Адзін з дэпутатаў-сацыялістаў нават узняў пытанне на пасяджэнні фракцыі пра тое, як прымусіць Даніэлу маўчаць.

Не менш актыўнай была і наступная першая лэдзі — Бернадэта Шырак (нарадзілася ў 1933 годзе). Яна — адзіная ў гісторыі Францыі першая дама, якая на момант прыходу ў Елісейскі палац мела вопыт дэпутацкай і адміністрацыйнай працы і дасюль, дарэчы, застаецца дэпутатам рэгіянальнага парламенту. Бернандэта таксама актыўна дапамагала мужу, калі ён працаваў мэрам Парыжу. Праўда, наступствы гэтага «сямейнага падраду» аказаліся не вельмі прыгожымі: жонка Шырака праходзіць па справе крадзяжу сталічнага бюджэту.

Нельга не згадаць пра асабістую трагедыю Шыракаў. У 1973 годзе адна з дачок Шыракаў у выніку хваробы на менінгіт захварэла нервовай анарэксіяй і доўга лячылася. Бернандэта і Жак узялі ў сям'ю в'етнамскую дзяўчынку, бацькі якой загінулі, калі спрабавалі збегчы з В'етнама, дзе камуністы пачалі калектывізацыю.

А вось Карла Бруні, жонка Нікаля Сарказі, хаця і з'яўляецца прадстаўніком багемы, вялікіх скандалаў падчас знаходжання ў ролі першай дамы не нарабіла. Аднак у гісторыі ёй месца забяспечана, паколькі пры Сарказі ў Елісейскім палацы ўпершыню нарадзілася дзіця.

Цяпер чарга за Валеры. Яна заяўляе, што ёй не патрэбны статус першай дамы і ўвогуле яна жадае і далей працаваць у журналістыцы для часопіса «Paris Match» і каналу «Direct 8». «Я павінна быць фінансава незалежнай, каб карміць трох дзяцей, а журналістыка — гэта праца, якую я магу рабіць», — кажа яна. Максімум, на што згодна новая гаспадыня Елісейскага палацу, — браць інтэрв'ю ў замежных палітыкаў падчас розных міжнародных самітаў. Праўда, у тое, што першая дама застанецца пасіўнай у пытаннях палітыкі, верыцца слаба. Лічыцца, што менавіта Валеры прымусіла Франсуа, які доўгі час быў на апошніх ролях у Сацпартыі, паверыць у сябе і ўступіць у барацьбу за пасаду прэзідэнта.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛЯКСЕЙ НАВАЛЬНЫ



Заднага з лідараў антыпуцінскай апазіцыі атрымаўся неблагі папулярызатар казахскай літаратуры. Усё таму, што пасля выхаду з паліцэйскага ўчастку ў Маскве пасля чарговага затрымання за ўдзел у акцыі пратэсту, вядомы расійскі пратэстны блогер кінуў заклік да праціўнікаў рэжыму Пуціна ехаць да помніка Абаю Кунанбаеву ў цэнтры Масквы. Яго мімалётная фраза: «Едзем на Чыстыя Пруды да помніка незразумеламу казаху» тут жа выклікала шквал эмоцый у сацыяльных сетках. Адразу пасыпаліся пытанні: «А што гэта за незразумелы казах?» Высветлілася, што Абай Кунанбаеў (1845–1904) — казахскі паэт, заснавальнік казахскай пісьмовай літаратуры і яе першы класік, грамадскі дзеяч. Адразу абудзілася цікавасць да яго творчасці. Цікавасць аказалася такой вялікай, што расійскі тэлеканал «Дождж» стварыў спецыяльны сюжэт пра асобу Абая і яго пратэстную дзейнасць на мяжы XIX–XX стагоддзяў. Закончылася ўсё тым, што на казахскіх форумах пачалі з'яўляцца каментары накшталт: «Сёння зайду ў кнігарню і пашукаю вершы Абая Кунанбаева. Трэба ж ведаць сваіх герояў не толькі па імені».

### АРНАЛЬДА АТЭГІ



Лідар левых нацыяналістаў Краіны Баскаў, старшыня забароненай за кантакты з тэрарыстамі з групоўкі ЕТА партыі «Батасуна». Вышэйшы суд Іспаніі разглядзеў яго апеляцыю наконт папярэдняга прысуду, адпаведна якому Атэгі атрымаў 10 гадоў за спробу «рэканструкцыі структур партыі «Батасуна» па заданню ЕТА. Прысуд у выніку застаўся ў сіле, хаця турэмны тэрмін для Атэгі скарацілі на 6 гадоў. Як і трэба было чакаць, баскская супольнасць вельмі расчараваная такім фіналам справы. Яе лідары — нават тыя, хто не падтрымлівае izquierda abertzale (так называюць баскскіх левых нацыяналістаў), — згодныя, што прысуд нелагічны. Тое, чым займаўся Атэгі, — стварэнне легальнай незалежніцкай палітычнай сілы — хутчэй падрывала ўплыў тэрарыстычнага падполля. Пра гэта сведчыць тое, што цяперашняя легалізацыя izquierda abertzale пад шыльдай руху «Bildu» адбываецца паралельна заявам ЕТА пра адмову ад вайсковых дзеянняў. Так ці інакш, цяпер Атэгі павінен заставацца ў турме да 2016 года. Між тым, левыя нацыяналісты ўжо прыдумалі помсту Мадрыду за расправу над Атэгі. Яны вырашылі зрабіць былога шэфа партыі «Батасуна» кандыдатам на пасаду lehendakari — так называюць кіраўніка ўраду баскскай аўтаноміі на выбарах у наступным годзе.

### КІМ ЧЭН ІР

Лідар Паўночнай Карэі, якога афіцыйная прэса называла «любімы кіраўнік», памёр 17 снежня мінулага года. Між тым, зараз у афіцыйных медыях КНДР з'явіліся публікацыі пра тое, што разам з усім народам Паўночнай Карэі вялікі смутак перажывала ўся прырода. Мясцовыя прыродазнаўцы апублікавалі спіс незвычайных прыродных з'яў, якія адбыліся ў дзень смерці правадыра. Так, над адным возерам прагучаў гром. Над нейкай гарой паўстала зорка, чаго ніколі не было раней. Аднак галоўная роля ў абароне тэорыі пра тое, што нават нябёсы сумавалі па Кім Чэн Іру, належыць птушкам. Як піша адзін часопіс, яны паводзілі сябе ў той дзень вельмі незвычайна. Напрыклад, сарокі прыляталі да партрэтаў нябожчыка, што, па словах выдання, «дадавала смутку наведвальнікам жалобнага мерапрыемства». Прааналізаваўшы ўсе гэтыя фенаменальныя прыродныя цуды, ідэолагі КНДР зрабілі выснову: «Уся зямля і неба ўшанавалі памяць любімага кіраўніка».



▸ УЗГАДАЦЬ УСЁ

# КАЛАПСЫ 1993 ГОДА

Алег НОВІКАЎ

**Нават калі б у кастрычніку 1993 года ельцынскія танкі не білі прамой наводкай па Беламу дому, восень 1993-га ўсё роўна ўвайшла б у аналы гісторыі.**



Фота iBond

Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч. Дзяды–1993

Усё дзякуючы эсхаталагічнай дактрыне секты «Белае брацтва» (ББ), адпаведна якой канец свету мусіў адбыцца 10 лістапада 1993 года. У гэты дзень усім сваім паслядоўнікам месія секты Дзева Марыя (у побыце Марыя Цвігун) загадала прыбыць у Кіеў на карпатыўны малебен, каб пасля разам узнесціся на неба.

І хаця «Белае брацтва» было па ўсіх вымярэннях звычайнай эпатажнай сектай, яго адэпты здолелі данесці інфармацыю пра хуткі Армагедон да самых шырокіх колаў насельніцтва СНД. Гэта пры тым, што ў 1993 годзе пры адным з дэпартаментаў Саўміну была створаная спецыяльная камісія па барацьбе з ББ.

Аднак нягледзячы на паліцэйскія рэпрэсіі цвігунаўцы не здаваліся. Напэўна, самую смелую вылазку яны правялі ў ноч на 25 жніўня, калі абклеілі ўсе вітрыны ў цэнтры Гомеля плакатамі з выявай Дзевы Марыі. Па словах журналістаў, калі гамяльчане пабачылі такую колькасць плакатаў, яны вырашылі, што ў краіне абвясцілі пазачарговыя выбары.

Фінал гісторыі пра ББ аказаўся не такім феерычным. Апакаліпсіс 10 лістапада закончыўся масавым хапуном «братчыкаў» на подступах да Кіева. Украінскія праваахоўнікі адфільтравалі затрыманых на наяўнасць фанатыкаў і энтузіястаў з Беларусі, сярод якіх быў нават чатырохгадовы хлопчык з Гродна. Яго і іншых белых «братчыкаў» дэпартавалі на радзіму.

Тое, што прапаганда ББ мела значны грамадскі рэзананс без падтрымкі ў медыях (не кажучы ўжо пра розныя фэйсбукі), сведчыць пра тагачасны запыт грамадства на такога кшталту экстрэмальныя тэорыі. Гэта была, відавочна, форма радыкальнага эскапізму ад не вельмі камфортных рэалій 1993 года.

Дастаткова варта паглядзець на стан эканомікі. Той год стаў чарговым эпізодам бясконцага серыялу пад назвай «Крызіс». Былі ўстаноўленыя новыя рэкорды: так, інфляцыя ў тым годзе склала амаль 300 працэнтаў (на пачатку года зайчык каштаваў каля 475 рублёў за 1 долар, а напрыканцы — ужо амаль 2 тысячы).

У гэтым плане напалеонаўскімі выглядаюць пункты антыкрызіснай праграмы, якую прыняў урад і ВС напрыканцы 1993-га. Саўмін ускладаў на свае плечы абавязак не дапусціць падзення курсу рубля больш чым на 10 працэнтаў штомесяц (іншымі словамі, загадзя прызнавалася, што за год валюта стане як мінімум танней удвая, і гэта яшчэ разглядалася як супердасягненне).

У дадатак у 1993 годзе краіна некалькі разоў цярпела ад дэфіцыту рознага кшталту прадуктаў. Так, з-за перабояў на гродзенскай тавбачнай фабрыцы ў крамах зніклі айчынныя «танныя» цыгарэты.




Пасля таго, як кошты на шлюбныя пярсцёнкі выраслі да 40 тысяч рублёў, на старонках газет пачаліся дэбаты наконт таго, каб увогуле адмяніць абмен гэтымі гаджэтамі на шлюбных цырымоніях.

Цікава, што калапс эканомікі не выклікаў буйных сацыяльных пратэстаў. Прафсаюзы — як афіцыйныя, так і незалежныя — абмяжаваліся хіба што пагрозамі забастоўкі на адрас ураду і напісаннем петыцый. Як ні смешна гучыць, адной з найбольш рэзанансных сацыяльных акцый таго года стала вылазка ананімнага студэнта інстытута замежных моваў, які ў верасні бегаў па калідорах альма-матэр у чым маці нарадзіла на знак пратэсту супраць малых памераў стыпендый.

Сацыяльную апатыю можна спісаць на тое, што актыўная частка беларусаў падалася ў камерцыю, якая ўключала ўсё новыя і новыя сферы. Доказ гэтага — рэкламная аб'ява ў газеце «Экспрэс» пра… продаж падводнай лодкі. Пасля такога не выглядаюць вар'яцкімі прынятыя ў лістападзе Мінгарвыканкамам правілы гандлю на сталічных рынках, адзін з пунктаў якіх забараняў продаж з рук «дэталяў ракетна-касмічных комплексаў».

Адсутнасць вялікіх сацыяльных пратэстаў можна таксама спісаць на алкагалізацыю. У 1993 годзе кожнае пятае злачынства было зроблена ў стане алкагольнага ап'янення.

Галоўным фактарам быў, відавочна, лёгкі доступ да прадуктаў Бахуса. Яшчэ раней было дазволена гандляваць гарэлкай у камерцыйных шапіках, геаграфія якія ўключала амаль усе больш-менш людныя месцы. Так, у аднаго з журналістаў выклікаў шок продаж гарэлкі ў краме «Кветкі» на чыгуначным вакзале. Адказ уладальніка крамы быў просты: сапраўдны джэнтльмен, сустракаючы дзяўчыну, набудзе не толькі прыгожую ружу, аднак абавязкова і гарэлку.

І толькі ў адной мясцовасці ў Беларусі гарэлка і вельмі папулярны ў той час спірт «Раяль», не былі галоўным фактарамі злачынстваў. Гэтым анклавам аказўся Светлагорск, дзе большасць крымінальных злачынстваў у 1993 годзе (18 працэнтаў) здзяйсняліся асобамі пасля прыняцця дозы наркотыку. Нейкі дэпутат ад Светлагорска прапанаваў праект рэвалюцыйнай рэформы, каб легалізаваць «шырку». Па яго словах, калі ў шпіталях наркаманам, якія пагодзяцца на лячэнне, бясплатна даваць дозу, пазіцыі наркамафіі будуць падарваныя.

Алкагалізацыя цягнула за сабой крыміналізацыю, якая літаральна захлынула краіну. Так, увесну па Магілёўскай вобласці пранеслася хваля атак на светлафоры. Нейкі геній вылічыў, што ў кожным прыборы аптычнай сігналізацыі утрымліваецца аж 20 грамаў золата і 50 — серабра.

У Оршы гарадскі аддзел МУС звярнуўся да мужчын з заклікам, каб пазбегнуць рабавання, насіць увечары шапкі не на галаве, а пад мышкай. Пачынаючы з мая ўсё часцей з'яўляецца інфармацыя пра замоўныя забойствы. Самае гучнае адбылося ў Гродна, дзе ўвосень пасярод белага дня быў забіты губернатар.

Вясна і лета прайшлі ў канфліктах паміж кансерватыўнай большасцю ВС і дэмакратычнай меншасцю. Кульмінацыяй супрацьстаяння стала пасяджэнне 1 ліпеня, калі ў павестку дня было ўнесена пытанне пра адстаўку старшыні парламенту Станіслава Шушкевіча. Па інфармацыі газеты «Свабода», дэпутаты ад фракцыі «Беларусь» у перапынку нават ужо «абмывалі» перамогу і пасля галасавалі ледзь стоячы на нагах. За недавер Шушкевічу сапраўды прагаласавала большасць, аднак кворуму для прыняцця рашэння не было. Спікера выратаваў дэмарш дэмакратаў, якія не зарэгістраваліся для галасавання ў наіўным спадзяванні, што Шушкевіч у якасці падзякі пачне лабіраваць тэму пазатэрміновых выбараў.

Замест гэтага адразу пасля разборак 1 ліпеня Шушкевіч паляцеў у ЗША на сустрэчу з Білам Клінтанам, а экспертная супольнасць прынялася гадаць, як доўга яшчэ спікер захавае сваю пасаду. Хаця газета «Звязда» ў тым жа годзе надрукавала душашчыпальную аповесць «Станіслаў Шушкевіч» з яўным намёкам на тое, што Шушкевіч пасланы небам лідар беларускай дэмакратыі, самі дэмакраты ставіліся да яго насцярожана, называючы «адуванчыкам» (З. Пазьняк). Праз адсутнасць аўтарытэта старшыні ВС заставалася гуляць на супярэчнасцях.

Анатоль Майсеня пісаў тады: «Ён (Шушкевіч) цудоўна выконвае ролю камунікатара ў крызісныя моманты, аднак не мае здольнасці стварыць новую сістэму, стварыць на аснове супрацьстаяння дэмакратычны блок».

Нямецкая прэса ў жніўні прагназавала, што спікера здымуць на восеньскай сесіі. Але насуперак прагнозам Шушкевіч здолеў «пралангаваць» сваю кадэнцыю. Гэта здарылася дзякуючы падзеям у Расіі.

Канфрантацыя паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады ў суседняй Расіі, што распалялася з пачатку года, падзяліла не толькі расійскі палітыкум, але і беларускі.

Большасць дэпутацкага корпусу і звязанага з ім Саўміна сімпатызавалі Хасбулатаву і Руцкому. Так, на арганізаваным з іх удзелам Кангрэсе народаў Беларусі, які адбыўся ўвосень, прысутнічалі шматлікія аўтары будучага антыельцынскага путчу, кшталту генерала Сцерлігава. Цікава, што мерапрыемства запомнілася не рэзалюцыямі на карысць аднаўлення Савецкага Саюза, а інцыдэнтам з удзелам лідара камуністаў Віктара Чыкіна, якога міліцыя арыштавала пасля заканчэння Кангрэсу ў відавочна нецвярозым стане.

Станіслаў Шушкевіч зрабіў стаўку на падтрымку Ельцына, адразу назваўшы каманду чырвона-карычневых бандытамі. Варта таксама згадаць, што славуты зварот інтэлігенцыі да Ельцына, у якім яна заклікала забараніць кампартыю, падпісаў у тым ліку Алесь Адамовіч.

Пазней у лагер беларускіх ельцыноідаў уліліся нацыяналісты, хаця спачатку Пазьняк ахвотна казаў пра вечную аўтарытарную ўнутраную прыроду рускага народа. У дні канфлікту БЗВ сфармаваў атрад колькасцю ў 200 чалавек, які збіраўся ехаць на штурм Белага дому. Хаця да таго часу Ельцын сам разабраўся з путчыстамі, беларусы ўсё ж адзначыліся ў баях у Маскве. Падчас абароны Белага дома быў забіты жыхар Мінску, палкоўнік Ключнікаў. Яшчэ адной ахвярай стаў мінскі бізнэсмэн, які пайшоў падыхаць паветрам у раёне Астанкіна, дзе баркашоўцы якраз штурмавалі тэлестудыю. У выніку шалёная куля трапіла ў галаву камерсанта.

Перамога дэмакратаў у Маскве дэмаралізавала апанентаў Шушкевіча і дала яму, як галоўнаму саюзніку Ельцына, карт-бланш на змены. Менавіта да гэта заклікала яго апазіцыя, якая ў тыя дні зноў аб'ядналася ў Канфедэрацыю. Аднак спікер у чарговы раз упусціў палітычную ініцыятыву. Вярхоўны савет не толькі не быў распушчаны, але групе лідараў расійскіх путчыстаў, кшталту камсамольца Малярова, дазволілі спакойна адседзецца ў адным з інтэрнатаў Барысава.

Не адбылося доўгачаканых перастановак і ў складзе Саўміна, пра што шмат гаварылася ў той час у прэсе. Нават называліся новыя прозвішча міністраў, у тым ліку Генадзя Карпенкі, мэра Маладзечна — горада, які стаў палігонам беларускіх рынкавых рэформаў. Аднак Шушкевіч, як пісалі ў газетах, пабаяўся, што з прыходам ва ўладу маладых рэфарматараў яго аўтарытэт пахіснецца яшчэ больш.

У выніку наверсе захавалася статус-кво, ад чаго першыя асобы ўлады яшчэ больш прыеліся. Яны і іх ідэі надакучылі. У грамадстве быў запыт на новае. Менавіта па гэтай прычыне такі фурор выклікаў раней малавядомы Аляксандр Лукашэнка, які 14 снежня зачытаў славуты даклад камісіі па барацьбе з карупцыяй Вярхоўнага савета. Дарэчы, на старшыню камісіі кандыдатуру дэпутата Аляксандра Лукашэнкі прапанаваў Станіслаў Шушкевіч. За што і быў потым аддзячаны ўжо прэзідэнтам Лукашэнкам пенсіяй у нязменным памеры (на сённяшні дзень 3 долары).

Даклад шклоўскага дэпутата зрабіў яму шалёнае паблісіці. Адпаведна апытанню газеты «Советская Белоруссия», зробленага напярэдадні Новага года, яшчэ ўчора мала каму вядомы палітычны аўтсайдэр упершыню засвяціўся ў спісе самых папулярных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта. Праўда, на той час Лукашэнку ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў.

Як, дарэчы, недаацэньваліся і самі прэзідэнцкія выбары. Значна больш інтарэс у грамадстве напярэдадні новага 1994 года выклікала інфармацыя пра тое, што на сходцы крымінальных аўтарытэтаў у Маскве каранавалі «смотрящего» па Беларусі. Ім стаў нехта Наум з Віцебску. Ахвотна жартавалі наконт таго, што выбары сапраўднага кіраўніка краіны ўжо адбыліся.

ЦІКАВА

# ВЯЛІКІЯ КАМБІНАТАРЫ З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Гісторыя заходнебеларускіх тэрыторый, якія ўваходзілі ў 1921–1939 гадах у склад ІІ Рэчы Паспалітай, да сённяшняга дня захоўвае ў сабе шмат цікавых і малавывучаных сюжэтаў. Да такіх, напрыклад, належыць дзейнасць рознага роду аферыстаў, ашуканцаў і проста не чыстых на руку людзей, што пражывалі на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў міжваеннай Польшчы.**

Аднаўленая ў 1918 годзе польская дзяржава сутыкнулася з вялізнымі праблемамі ў фінансавай сферы. Яшчэ падчас нямецкай акупацыі Польшчы на яе тэрыторыі была створана Польская краёвая крэдытная каса, якая выпускала так званыя «польскія маркі». Гэтыя грошы сталі першым плацежным сродкам у незалежнай Польшчы. Аднак інфляцыя літаральна штодня абясцэньвала польскую марку. Калі ў 1919 годзе за 1 паўночна-амерыканскі долар давалі 9 марак, то праз год — ужо 110, праз два — 3000, а ў 1924-м — каля 6,5 мільёна марак. Інфляцыя знішчала капіталы банкаў і прыватных асоб. Зрэшты, гэтая сітуацыя спраявакавала з'яўленне вялікай колькасці банкаў-аднадзёнак, якія ў асноўным зараблялі валютнымі спекуляцыямі.

Адным з такіх банкаў-фантомаў быў Віленскі сельскагаспадарча-прамысловы банк, які меў філіялы ў Гародні, Глыбокім, Даўгінаве, Свянцянах і Дзісне. У снежні 1925 года партнёрам гэтай крэдытна-фінансавай установы стала латвійская фінансавая група. Аднак праз год кіраўніцтва банка заявіла аб банкруцтве. Значны ўплыў на гэта аказала ўвядзенне ў 1924 годзе новай польскай валюты — злотага, што прывяло да стабілізацыі фінансавага рынку. У дзейнасці банка не абышлося і без афёр. Яго кіраўніцтва абвінавацілі ў махінацыях з вэксалямі, з-за якіх пацярпелі такія гіганты, як Банк польскі і Банк краёвай гаспадаркі.

У сакавіку 1926 года былі арыштаваны супрацоўнікі віленскага аддзела Гандлёвага банка. Следства паказала, што гэтыя людзі праводзілі банкаўскія аперацыі па «шэрых схемах». Страты банка склалі больш за 50 тысяч злотых. На гэтыя сродкі былыя банкіры паспелі набыць нерухомасць і аўтамабіль. У 1933 годзе «крэсы ўсходнія» абляцела навіна пра самагубства Станіслава Рушкевіча, дырэктара віленскага філіяла банка, які курыраваў сферу вытворчасці цукру. Да гэтага ўчынку дырэктара падштурхнуў страх пакарання за махінацыі. Пасля праведзенай рэвізіі на складах была выяўлена адсутнасць 300 мяшкоў цукру агульным коштам 20 тысяч злотых. Аказалася, што Рушкевіч іх прадаў, а прыбытак паклаў у кішэню.

У сакавіку 1935 года ў Вілейку прыехала група «прадпрымальных» людзей. Неўзабаве яны стварылі «Крэдытную касу», якую пазіцыянавалі як фірму з паспяховай крэдытнай гісторыяй. Дзейнасць «касы» працягвалася ўсяго некалькі месяцаў, аднак за гэты час яе ахвярамі стаў цэлы шэраг фірм.

Найбольш вядомай банкаўскай афёрай у Заходняй Беларусі была падробка ашчадных кніжак банка PKO (Паштовай ашчаднай касы). Аддзяленні гэтай крэдытна-фінансавай установы былі ў Вільні, Ашмянах і Свянцянах. Усплёск злачынстваў, звязаных са спробай атрымання грошай па падробленых ашчадкніжках, прыйшоўся на 1932–1934 гады. Аферысты альбо падраблялі сам бланк дакумента, альбо дапісвалі пару нулёў да сумы, указанай у кніжцы. Звычайна жыхары Заходняй Беларусі трымалі на ашчадкніжках невялікія сумы. Дамаляваў «нулік» — і калі касір не дасведчаны, то, як казалі ў адным фільме, «easy money».


Польскія дакументы і грошы 1930-х (з калекцыі аўтара)



Польскі агітплакат 1938 года



Рэклама банка PKO

У 1933 годзе ў Вільні паліцыяй быў арыштаваны Марцін Невяроўскі, у якога была выяўлена вялікая колькасць ашчадкніжак, адчыненых у Ашмянах на падстаўных асоб. Аферыст падрабляў сумы ашчаджэнняў і подпісы ўладальнікаў і такім чынам атрымліваў грошы ў касах. Больш таго, у падробцы банкаўскіх дакументаў былі абвінавачаны двое яго сыноў і дачка. Вось такі сямейны падрад.

У маі 1931 года ў Лідзе была арыштавана банда мудрагелістых фальшываманетчыкаў на чале са Шломам Тэненбаўмам. Гэты чалавек у свой час усталяваў кантакт з супрацоўнікамі хімічнай лабараторыі ў Роўна, дзякуючы чаму наладзіў працэс «гальванізацыі» залатых царскіх чырвонцаў, які заключаўся ў «вымыванні» з манет золата і памяншэнні іх вагі на 10–15%. Варта адзначыць, што залатыя чырвонцы з выявай апошняга рускага цара Мікалая II былі канверсоўнай валютай у Польшчы і служылі адным з галоўных сродкаў захавання і назапашвання капіталаў.

«Апрацаваныя» чырвонцы вонкава нічым не адрозніваліся ад арыгінальных манет. На атрыманыя з продажу залатых дзясятак грошы аферысты куплялі новыя манеты і адпраўлялі іх у Роўна. Па падліках паліцыі, шайцы атрымалася «перапрацаваць» каля 20 тысяч залатых пяці- і дзесяцірублёвак. Выйшлі на след ашуканцаў польскія служыцелі парадку выпадкова. Адзін з лідскіх стаматолагаў, які набыў чырвонцы, вызначыў, што манеты важаць менш, чым патрэбна, і выклікаў паліцыю. Следства паказала, што ў выніку дзейнасці банды Тэненбаўма пацярпелі не толькі прыватныя асобы, але і шэраг банкаў. У 1937 годзе на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства была арыштавана банда, якая зарабляла на вырабе фальшывых сярэбраных манет наміналам у 10 злотых. У якасці зыходнага матэрыялу фальшываманетчыкі выкарыстоўвалі царскія сярэбраныя рублі.

Было шмат афёр і ў сферы іпатэчнага крэдытавання. У верасні 1931 года ў камунальную ашчадную касу Вільні звярнуўся чалавек з просьбай аб выдачы пазыкі на будаўніцтва дома. У якасці закладу ён прапанаваў сваю кватэру, прадставіўшы на яе дакументы. Пасля падпісання гарантыйных вэксаляў ён атрымаў 5 тысяч долараў (паўночна-амерыканская валюта і тады была ў пашане). А неўзабаве аказалася, што крэдыт па падробленых дакументах аформіў аферыст, беларус па нацыянальнасці, Станіслаў Валейша. За гэтым чалавекам цягнуўся шлейф падобных злачынстваў яшчэ з царскіх часоў. Аднак на гэты раз сысці ад правасуддзя ў яго не атрымалася. Валейша быў арыштаваны і ў 1932 годзе асуджаны польскім судом да 5 гадоў турэмнага зняволення.

Сустракаліся, аднак, і высакародныя аферысты. У кастрычніку 1933 года жыхар Заходняй Беларусі Якаў Грылін збіраўся эміграваць у ЗША. Дзеля гэтага ён пазнаёміўся з чалавекам, які абяцаў дапамагчы з выездам за мяжу. За арганізацыю ад'езду Грылін заплаціў 100 долараў. Аднак неўзабаве пасрэднік знік. Зрэшты, праз некалькі тыдняў Якаў атрымаў ліст з Палесціны, у якім аферыст, які ўзяў у яго салідную суму, прасіў прабачэння і абяцаў пераслаць праз польскі банк PKO узятыя грошы разам з адсоткамі. І сапраўды, хутка Грылін атрымаў з Тэль-Авіву свае «кроўныя». Але такія выпадкі былі, хутчэй, выключэннем.

У 1936 годзе ў Вільні з'явіўся чалавек, што выдаваў сябе за капітана англійскага войска Ласмана. Гэты чалавек нібыта шукаў добраахвотнікаў для адпраўкі на Грамадзянскую вайну ў Іспанію. За паслугі ён браў камісійныя. Ласманам зацікавілася польская паліцыя. У выніку следства высветлілася, што за англійскага падданага выдаваў сябе ўраджэнец Заходняй Беларусі па прозвішчы Бернюкевіч. Ён у дасканаласці валодаў 13 замежнымі мовамі, што ў свой час дапамагло яму адкрыць школу замежных моў. Аднак пасля атрымання грошай за вучобу, ён збег і займаўся падобнымі злачынствамі ў іншых польскіх гарадах.

«Калі ў краіне курсуюць грашовыя знакі, значыць, ёсць людзі, у якіх іх вельмі шмат», — так, магчыма, разважаў не толькі Астап Бэндэр, але і шматлікія аматары «лёгкіх грошай» з Заходняй Беларусі. Але Другая сусветная вайна, якая пачалася ў верасні 1939-га, змяніла ўклад жыцця, які склаўся за мірнае дваццацігоддзе. На змену «панскай Польшчы» прыйшла «рабоча-сялянская савецкая ўлада», якая ўстанавіла свае правілы гульні на фінансавым рынку. Так сышла ў мінулае эра «вялікіх камбінатараў» з Заходняй Беларусі.

КАНЦЭРТ

# VINCENT: РЭП «БЕЗ БУСЛОЎ»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Цікаўнасць слухачоў да сольнага канцэрта беларускага рэпера Vincent'а была каталізавана паведамленнямі пра тое, што музыкант прыняў непасрэдны ўдзел у здымках першага беларускамоўнага серыяла «Вышэй за неба», сцэнарыстам і прадзюсарам якога стаў вядомы беларускі драматург Андрэй Курэйчык.**



У гэтай стужцы Vincent выканаў адну з музычных роляў. Да таго ж напісаў і заспяваў галоўную песню, якая стала лейтматывам усяго серыялу. Маецца на ўвазе кампазіцыя «Ні кроку назад», на якую стваральнікі серыяла «Вышэй за неба» знялі відэа-кліп.

«Жывой» і відэа-прэзентацыі кампазіцыі «Ні кроку назад» і быў прысвечаны канцэрт Vincenta, які сабраў прыхільнікаў творчасці рэпера ў сталічным клубе «Re: Public». Па традыцыі, на канцэрт былі запрошаныя сябры музыканта, сярод якіх вылучаўся пераможца рэспубліканскіх спаборніцтваў па фрыстайле (спантаннай рэп-імправізацыі) па версіі Street Awards–2011 Gleboki Smak. Рэпер цяпер жыве і вучыцца ў Вільні. Беларускамоўны фрыстайлер прапанаваў слухачам тэмы для рыфмаў, якія імгненна кампанаваў у вершаваныя радкі і чатырохрадкоўі. На жаль, не ўсе з іх былі арыгінальнымі («Жыве Беларусь і гэтым ганарусь!»), хоць некаторыя з іх прымушалі слухачоў уважліва асэнсоўваць тэму імправізацый, падбадзёрваць Smak'а апладысментамі. Сэт Gleboki Smak пацвердзіў, што ў самым складаным раздзеле вулічнай музычнай культуры — фрыстайле — шмат залежыць ад вопыту спаборніцтваў і падрыхтаванасці да іх, ведання мовы і паэтычнага таленту. Гарманічнае спалучэнне гэтых якасцей у рэпера-імправізатара Gleboki Smak яшчэ наперадзе.

Пасля імправізацыйнай часткі канцэрта на сцэну клуба «Re: Public» быў запрошаны Vincent і яго каманда. Выканаўца здзівіў слухачоў сваім сцэнічным касцюмам у стылі «мілітары» і «будзёнаўкай» з нацыянальным гербам. Аказалася, што так Vincent адзначыў святочны дзень Перамогі, у які і адбываўся канцэрт-прэзентацыя сінгла «Ні кроку назад».

Свой жа музычны сэт рэпер распачаў кампазіцыяй «Працягваю жыць».

Высветлілася, што гэтую рэп-чытанку, як і іншыя творы Vincent'а, беларуская моладзь ведае і можа дэкламаваць напамяць. Такое заданне было аб'яўлена арганізатарамі канцэрта і кампаніяй «Будзьма беларусамі!» у выглядзе конкурсу для знаўцаў рэп-тэкстаў Vincent'а. Менавіта «Будзьма!» прадставіла сувеніры для пераможцаў. Ад жадаючых прачытаць тэксты Vincent'а з яго першага альбома не было адбою, і прызы ад арганізатараў хутка знайшлі сваіх шчаслівых уладальнікаў.

Крытыкамі ўжо адзначаліся змены ў творчасці Vincent'а. Цяпер канцэрты рэпера суправаджае паўнавартасная рок-каманда. З гэтага факту выявіліся змены ў гучанні кампазіцый Vincent'а. Цяпер гэта сапраўдны rap-metal. Не здарма Vincent прапанаваў слухачам беларускамоўны кавер на творчасць класікаў гэтага стылю — гурта Rage Against the Machine (RATM), які ў беларускім варыянце называецца «Нас не скарыць». Зразумела, што беларускія музыкі захавалі выбуховую энергетыку твора. Гэткім жа эмацыянальным запалам і адпаведнай энергетыкай адрознівалася выкананне іншых хітоў Vincent'а: «Бог. Радзіма. Воля», «Выжывае», «Наша слова ў небяспецы», «Плошча», «Слава героям!» Яскравыя рытмы гэтых кампазіцый і «металічнае» гучанне рок-суправаджэня Vincent'а выклікалі на танцполе клуба сапраўдны слэм — хаатычныя скокі і штурханні перад сцэнай, якія лічацца станоўча-пазітыўнай рэакцыяй публікі на музыку.

У той жа час, іншыя творы выканаўцы, якія гучалі ў гэты дзень, залагоджвалі слухачоў пранікнёнасцю і шчырасцю пачуццяў. Маю на ўвазе кампазіцыі «Лютаўскі дождж», «Вусны», «Восеньскі вальс». Гэтую якасць лірычных песень Vincent'а маладыя слухачы выкарыстоўвалі на сваю карысць: павольна танчылі вальс са сваімі маладымі спадарожніцамі.

Яшчэ адзін сюрпрыз канцэрта — выступленне Сашы Захарык, якая ў дуэце з Vincent'ам выканала песню «Не пакіну». Відавочна, што маладая спявачка ўжо мае канцэртны вопыт, які дапамагае ёй скарыстаць свае вакальныя магчымасці для выяўлення эмацыянальнага стрыжня музычнага твора. На жаль, Саша «засвяцілася» толькі ў адной кампазіцыі, таму пажадаем маладой спявачцы больш плённай дзейнасці ў якасці салісткі.

Доўгачаканая прэм'ера кліпа на песню «Ні кроку назад» суправаджалася выхадам на сцэну клуба «Re:Public» здымачнай групы фільма «Вышэй за неба» на чале са сцэнарыстам і крэатыўным прадзюсарам Андрэем Курэйчыкам, якія расказалі будучым гледачам стужкі пра акалічнасці стварэння кліпа, акрэслілі ролю беларускамоўнай музыкі ў сваім новым серыяле. Андрэй Курэйчык з гонарам прадэманстраваў моладзі сваю цішотку з надпісам «Без буслоў» і патлумачыў, як разумець навамодны слоган. Па словах Курэйчыка, «без буслоў» — значыць «без пошласці, дрэннага густа і танных пантоў». Крэатыўна, але пры чым тут беларуская птушка бусел?

Сам жа кліп падаўся даволі дынамічнай і відовішчнай відэа-дзеяй. Слухач, знаёмы са сталічнай тапаграфіяй, пазнае ў ім шмат знаёмых месцаў і адзначыць шэраг моцных сімвалаў і алюзій, якімі багаты новы кліп Vincent'а.

Беларускамоўны рэп, як і многія іншыя стылістычныя напрамкі сучаснай музыкі ў Беларусі, праходзіць шмат супярэчных этапаў у сваёй эвалюцыі. Падчас гэтых натуральных зменаў айчынныя выканаўцы нешта набываюць, а бывае — губляюць. Добра, што застаецца галоўны набытак іх творчасці апошніх гадоў — шчырасць у дыялогу са сваімі прыхільнікамі, імкненне ствараць праўдзівы нацыянальны музычны прадукт, якасць якога вызначаецца павагай да роднага слова. І пацверджаннем гэтай тэндэнцыі стаў сольны канцэрт беларускага рэпера Vincent'а.

ДАТА

# САМЫ НАРОДНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

Аляксей ХАДЫКА

**15 мая Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН адзначыў сваё 33-годдзе. Гэтай падзеі прысвячалася публічная лекцыя аднаго з яго заснавальнікаў, прафесара Юрыя Хадыкі, якая прайшла ў Таварыстве беларускай мовы на Румянцава, 13 у Мінску.**

Калі энтузіясты-збіральнікі гэтага ўнікальнага сховішча старога нацыянальнага мастацтва ў 1979 годзе падлічылі колькасць удзельнікаў навуковых і добраахвотных экспедыцый па ўсёй Беларусі, цягам якой збіраліся абразы і скульптуры, царкоўнае ўбранне і помнікі этнаграфіі, яны моцна ўразіліся. Высветлілася, што над стварэннем сапраўды народнага музея ў часы брэжнеўскага застою і ідэалагічных цугляў, накінутых на грамадскае жыццё, працавала больш за 120 чалавек.

Халодны недавер уладаў да шукальнікаў прыгажосці нацыянальнага мастацтва праявіўся вельмі хутка. Ужо праз 4 гады пасля першай экспедыцыі пачатковая калекцыя, каля 250 твораў сакральнага мастацтва, была канфіскаваная і перададзеная ў фонды Мастацкага музея Беларусі — са спадзяваннем назаўжды схаваць іх ад людскога вока. З той жа сферы — забарона канферэнцыі «Этнагенез беларусаў» у 1973-м: з «нацыяналізмам» змагаліся не на жарт. Прычына была банальнай: праверка ідэалагічнай працы беларускіх камуністаў з ЦК КПСС.

Але пагроза мінулася, у 1979-м надыходзіла 50-годдзе Беларускай акадэміі навук, і яе прэзідэнт Мікалай Барысевіч даў дазвол на дзейнасць музейнай групы, а з 1977-га — аддзела старажытнабеларускай культуры, які ачоліла Вольга Церашчатава. Быў дадзены дазвол і на планаванне памкнняў музея, якія адчыніліся ў 1979-м.

Гадавіна зрабілася нагодай прыгадаць імёны апантаных рупліўцаў вывучэння культурнай спадчыны, якія натхнілі сваёй працай дзясяткі паслядоўнікаў. З сярэдзіны 1960-х энтузіястаў згуртавалі бліскучыя лекцыі па гісторыі мастацтваў Элеаноры Вецер, першаадкрывальніцы — пасля Міколы Шчакаціхіна — прыгажосці беларускай іконы. Пасля яе звальнення з Інстытуту мастацтвазнаўства ў тым самым 1974 годзе справу пераняла Вольга Церашчатава, першы дырэктар будучага музея. Яе намаганнямі стваралася сённяшняя экспазіцыя і адкрытыя для наведвальнікаў фонды: разам каля 630 твораў сакральнага жывапісу, амаль 200 скульптур, а з іншымі рарытэтамі больш за 17 тысяч экспанатаў. Наладзілася рэстаўрацыйная дзейнасць. Прайшлі першыя навуковыя канферэнцыі, пабачылі свет зборнікі па новых адкрыццях старых помнікаў. Плён працы музейных навукоўцаў — манаграфіі па гісторыі іканапісу, скульптуры, шкларобства, кнігадрукарства, старой гравюры, этнаграфіі Беларусі. Сёння яны — падмурак ведаў па беларускай культуры ў школьных і ўніверсітэцкіх курсах.





«Тройца» з Дастоева, XVII ст., і «Пакланенне вешчуноў» з Дрысвятаў, пасля 1514 г. — шэдэўры Музея старажытнабеларускай культуры

Але як і ў час адкрыцця, музей, размешчаны па адрасе вул. Сурганава, 1, корпус 2 — напаўзакрытая ўстанова, куды трапляюць па папярэдняй дамоўленасці. А ў сувязі з агучанымі днямі ў прэсе планамі ліквідацыі Інстытутf мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ды інстытуту мовы і літаратуры з ператварэннем іх у цэнтр гуманітарных навук — нагадвае вяртанне АН у часы Інбелкульта, ці не праўда? — лёс музея выклікае асаблівае хваляванне. Магчыма, замест будаўніцтва чарговага лядовага палацу беларускай дзяржаве варта ашчадзіць сродкі на рэстаўрацыю годнага старога будынка ці ўзвядзенне новага ў цэнтры горада, каб упрыгожыць сталіцу ўжо даўно падрыхтаванай дзеля гэтага ўнікальнай калекцыяй?

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 452

Падпісана да друку 18.05.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.